


*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*

# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

**ПЯТНІЦА, 3 сакавіка 1989 г. № 9 (3471) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.**




Адна са старэйшых бібліятэк Мінска — бібліятэка імя Пушкіна — у наступным годзе адзначыць сваё 90-годдзе. Пры ёй створаны два клубы, у тым ліку клуб аматараў беларускай культуры, у фае пастаянна дзейнічаюць мастацкія выстаўкі, нядаўна адкрыўся відэасалон. Шмат клопатаў у намесніка дырэктара Наталлі Станіславаўны ЧУЕВАЙ, якую вы бачыце на здымку. Зрэшты, як і ва ўсіх «пушкінцаў»...

Фота Ул. КРУКА.

## УНУМАРЫ:



## УСПОМНІМ УСІХ ПАЙМЕННА!

15 лютага 1989 года апошні савецкі салдат пакінуў афганскую зямлю. Сярод тых, хто сумленна выканаў свой інтэрнацыянальны абавязак, былі і нашы землякі. Сваёй ратнай доблесцю яны атрымалі павагу, шчырую ўдзячнасць і падзяку афганскага народа.

Не ўсіх сваіх сыноў сустрэла Беларусь — сотні хлопцаў прынялі апошні бой у спякотных афганскіх гарах.

Выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі збірае матэрыялы для кнігі аб беларускіх хлопцах, якія загінулі ў Афганістане. Гэты летапіс мужнасці і болю выйдзе ў серыі «Памяць» і будзе складзены з фатаграфій, пісем, успамінаў іх родных, блізкіх, саслужыўцаў

24 лютага бягучага года газета «Вячэрні Мінск» назвала імёны ўсіх мінчан, якія аддалі свае жыцці на зямлі Афганістана. Але гэта высакародная акцыя — толькі першы крок у зборы матэрыялаў. Падрабязных дадзеных аб большасці «афганцаў», на жаль, пакуль няма. Нельга дапусціць, каб нехта з нашых суайчыннікаў, якія загінулі ў Афганістане, застаўся невядомым. Інфармацыю аб загінуўшых можна высылаць проста ў выдавецтва, на адрас: 220600 г. Мінск, вул. Акадэмічная, 15-а, тэлефон 39-40-94.

Пры жаданні матэрыялы можна накіроўваць і ў БЕЛТА (220600 Мінск, вул. Кірава, 26), у рэдакцыі перыядычных выданняў. Яны стануць асновай газетных публікацый, а потым будуць таксама перададзены ў выдавецтва.

Гэту кнігу павінны напісаць усе мы. Яна стане нашай памяццю аб героях-інтэрнацыяналістах.

**БЕЛТА.**

□

*Я НЕ МІНЧАНІН, жыву ў Брэсце, прыехаў у Мінск пагасцяваць да дачкі і парадавацца на ўнучку. І на мітынг трапіў, можна сказаць, выпадкова. Проста цікава было паглядзець, што за мітынг, бо ніколі за ўсё сваё немалое жыццё на такім масавым мітынгу не быў. Не ўсё, скажу адразу, спадабалася. Навошта было перад самым пачаткам ганяць па стадыёне чатыры велізэзныя аўтафургоны? І потым... Шумелі, свісталі, вырывалі адзін у аднаго мікрафон. І занадта ўжо многа было нападак на ўлады. Як быццам справа толькі ў тым, хто сёння займае пасаду старшыні гарвыканкома ці сакратара гаркома. Тут я не магу пагадзіцца з тым маладым чалавекам (прозвішча не разабраў), які заяўляў: як толькі вы сыдзеце і мы зоймем вашы кабінеты — усё пойдзе як па масле. Усё не пойдзе як па масле пры любых кіраўніках. Былі б хоць хлеб і масла... А ўвогуле не шкадую, што прастаяў на марозе і ветры чатыры гадзіны. Дэмакратызацыя патрабуе ахвяр.*

*А. ХАРУНЖЫ,*
*служачы.*

□

**З. ПАЗНЯК зусім не заклікаў да «канфрантацыі з існуючым ладам», як напісаў у «Советской Белоруссии» В. Пучкоўскі, наладчык Мінскага маторнага завода. Я была на мітынгу ад пачатку і да канца, чула ўсе выступленні і сведчу, што ён заклікаў якраз змагацца за сапраўдны сацыялізм, супраць бюракратыі, якая спрабуе навязаць народу свой, апаратны варыянт перабудовы. Пераканаўча гаварыў ён і пра неабходнасць рашучай дэсталінізацыі грамадства.**

**XIX партканферэнцыя прапанавала шляхі рэальнай перабудовы. Але адна партыя, без падтрымкі, без шырокага ўдзелу народа, як слушна падкрэсліў на мітынгу член-карэспандэнт Акадэміі медыцынскіх навук, прафесар М. Місюк, рабочы з «Гарызонта» А. Галькевіч і іншыя, не зможа дасягнуць пастаўленай мэты. Кожны з нас сёння хоча дапамагчы партыі, рэальна ўдзельнічаць ва ўсіх працэсах, а не быць толькі сляпым выканаўцам.**

**В. ЯГОРАВА,**
**урач Мінскага гарадскога анкалагічнага дыспансера.**

□

*МЯНЕ ПРЫВЯЛА на стадыён зусім не дасужая цікаўнасць, а імкненне пачуць адказы на пытанні, якія хвалююць сёння ўсіх нас, каму не абыякавы лёс перабудовы. Не на ўсе пытанні мы чулі адказ. Калі, напрыклад, было ўзнята пытанне аб адсутнасці ў насельніцтва дазіметраў, то адказу мы наогул не пачулі. Чаму? Я сам абслугоўваў заражоную ў Чарнобылі тэхніку. Мы карысталіся такімі прыборамі. Устройства іх элементарнае, правільна эксплуатаваць дазіметр можа нават першакласнік. Дык за чым жа справа, таварышы кіраўнікі? Гэта ж не стратэгічны бамбардзіроўшчык, для вытворчасці дазіметра не патрабуюцца мільярды народных грошай.*

*Віталь ПАЛЮХОВІЧ,*
*слесар-прыбарыст упраўлення галоўнага канструктара аўтазавода.*

□

**МНЕ ТАКСАМА не ўсё спадабалася на мітынгу. Я думаю, ён прайшоў бы лепш, каб не было спроб перашкодзіць, сарваць яго. Пацвярджэннем такіх спроб было, па-мойму, правакацыйнае выступленне В. Дашкевіча, які спрабаваў скіраваць мітынг у нацыянальнае рэчышча, выклікаць міжнацыянальную варожасць. Але не выйшла, людзі не паддаліся!**

**З. РУЗАНАВА,**
**ветэран працы, пенсіянерка.**

□

*ВЕЛЬМІ СУМНА было чытаць «водгукі» на мітынг, дзе ў безапеляцыйнай форме, у духу горшых традыцый застою выказвалася думка аб тым, што, маўляў, пара і ўладу ўжыць («Можа, хопіць спакойна глядзець на беспардонныя выхадкі...» і г. д.). Па-першае, беспардонных выхадак не было. Па-другое, давайце звернемся яшчэ раз да рэзалюцыі XIX партканферэнцыі. «Як пазітыўную з'яву, — гаворыцца ў рэзалюцыі, — трэба разглядаць узнікненне ў апошні час шэрагу новых грамадскіх асацыяцый і аб'яднанняў, якія ставяць сваёй мэтай садзейнічаць справе сацыялістычнага абнаўлення». Але ж пра сацыялістычнае абнаўленне і ішла, здаецца, размова на мітынгу.*

*А. ШАПАШНІКАЎ,*
*інжынер.*

□

**НА МІТЫНГУ, па-мойму, падымаліся важныя, надзённыя праблемы. І не заўважыць, не зразумець гэтага могуць толькі тыя, каго гэтыя праблемы чамусь не турбуюць, хто ўсё яшчэ знаходзіцца ў сне, навеяным часамі застою.**

**Васіль ГАМЗАЛЕУСКІ,**
**рэжысёр.**

□

*НЕ МАГУ пагадзіцца з выказваннямі аб бескарыснасці ці нават шкоднасці мітынгу. Вядома, ён меў недахопы. Гэта і зразумела: такое адбывалася, па сутнасці, упершыню. Але ўзвальваць усю віну за іх на нефармалаў несправядліва. Якраз з іх боку былі канкрэтныя прапановы і меркаванні, якія заслугоўваюць самага сур'ёзнага вывучэння. Народ, асабліва моладзь, хоча разабрацца ў многіх пытаннях і праблемах, людзей многае трывожыць, іх сур'ёзна непакоіць лёс перабудовы, і нельга не даваць ім выказацца, нельга не слухаць іх, не шукаць агульнай мовы з імі.*

*Я не з тых, хто захапляецца нефармаламі. Мне асабіста бачны іх недахопы, іх схільнасць да гучных дэкларацый, да агульных заяў, за якімі не заўсёды адчуваецца разуменне канкрэтных спраў. Але ж такі рух існуе, і з ім нельга не лічыцца. Інакш будзе расці напружанасць. А каму гэта трэба?*

*А. САЛАМОНАЎ,*
*доктар тэхнічных навук, прафесар.*

---

**«Не плачце аба мне...» — вылучаны кінастудыяй «Беларусьфільм».**

**А. ПАСТАРЭВІЧ, А. ДУШАЧКІН, В. ЯНКОЎСКІ, М. МАРТЫНЕНКА, А. ЖДАНОВІЧ за спектакль «Начныя карлікі і Антыгона» па п'есе Л. Разумоўскай — вылучаны вытворчым аб'яднаннем «Будмаш».**

**С. ЛУК'ЯНЧЫКАЎ, А. БЕЛАВУСАЎ, Ф. КУЧАР за мастацка-публіцыстычны фільм «Боль» — вылучаны Саюзам кінематаграфістаў БССР.**

**В. РУБІНЧЫК за пастаноўку спектакля «Камедыя аб Лісістраце» на сцэне Тэатра-студыі кінаакцёра — вылучаны Саюзам кінематаграфістаў БССР.**

**А. КАРПАЎ за дакументальныя фільмы аб сучасніках «Ад слова «жыць», «Ішоў мокры снег», «Зімняя прэм'ера» — вылучаны Саюзам кінематаграфістаў БССР.**

**Н. АРЛОВА, Е. МАРЧАНКА, О. КАРШАКЕВІЧ за мультыплікацыйны фільм «Лафертаўская макаўніца» — вылучаны Саюзам кінематаграфістаў БССР.**

**А. БУЛДАКОЎ за выкананне адной з галоўных роляў у тэлевізійным мастацкім фільме «Павестка ў суд» — вылучаны Саюзам кінематаграфістаў БССР.**

**А. БЯСПАЛЬНЫ, А. ЦЯРПІЦКІ, П. ЮРЧАНКАЎ, С. СУХАВЕЙ, І. НАРБЕКАВА, Н. ЖУКОЎСКАЯ, Н. РАЗАНЦАВА, Т. МУЖЭНКА, А. ГУР'ЕЎ, В. РЫБЧЫНСКІ, А. КАШПЕРАЎ, С. ВІЛЬКІН, В. НОВІК, Д. ЮСІФАЎ, А. ШЫЦІКАЎ, С. КУЗЬМІНА, Л. КАРМУНІНА, С. ТУРАВА, А. ДУБРОВІЧНА, Н. ПАШКЕВІЧ, Л. МАРДАЧОВА, І. МАЦКЕВІЧ, Ю. КАЗЮЧЫЦ, А. МІРОШНІКАЎ, В. ГРЫЦЭЎСКІ, А. ЦІМОШКІН, І. СЦЯПАНАЎ, Е. АДЗІНЦОВА за ўдзел у спектаклях «Фантазіі па Гогалю», «Камедыя аб Лісістраце» — вылучаны Саюзам кінематаграфістаў БССР.**

**М. ПТАШУК за кінафільм «Знак бяды» — вылучаны кінастудыяй «Беларусьфільм».**

**ТВОРЫ ПАЭЗІІ, ДРАМАТУРГІІ, ПРОЗЫ І ПУБЛІЦЫСТЫКІ**

**В. ГІГЕВІЧ за раман «Доказ ад процілеглага» — вылучаны Саюзам пісьменнікаў БССР.**

**С. ЗАКОННІКАЎ за кнігу паэзіі «Сутнасць» — вылучаны Саюзам пісьменнікаў БССР.**

**А. КАЗЛОВІЧ за аповесць-эсэ «На маёй далоні лінія ракі» — вылучаны Саюзам пісьменнікаў БССР.**

**В. БЛАКІТ за кнігу «Аповесці» — вылучаны Саюзам пісьменнікаў БССР.**

**Ю. СВІРКА за кнігу паэзіі «Паўшар'е блакіту» — вылучаны Саюзам пісьменнікаў БССР.**

**Ю. ЧУРКО за кнігі «Беларускі балетны тэатр» і «Беларускі балет у асобах» — вылучана Саюзам тэатральных дзеячаў БССР і Мінскім інстытутам культуры.**

---

*Ліст у рэдакцыю*

**Перадача «Імем Беларусі...» знайшла адлюстраванне і ў лімаўскай пошце. Прыслалі свае палемічныя водгукі гісторык С. Таляронак, архітэктар В. Папруга, служачы А. Карпаў. Пішуць і ўдзельнікі перадачы кандыдат гістарычных навук В. Скалабан і пісьменнік Э. Ялугін...**

# Чаму блін комам,

## альбо Як мы ўдзельнічалі ў тэлеперадачы «Імем Беларусі...»

Яшчэ ні для адной, здаецца, перадачы Беларускага тэлебачання не рабілася столькі папярэдняй рэкламы (праўда, нейкай надзіва мітуслівай), як гэтай — «Імем Беларусі...» Не толькі анонсы ў газетах, «Тэленавінах», у папулярнай праграме для моладзі «Крок», але дзе-нідзе і школьнікам класныя кіраўнікі рэкамендавалі яе абавязкова паглядзець. Што ж, тэма сапраўды вельмі актуальная: якраз цяпер у грамадстве выявіўся востры дэфіцыт ведаў аб шляхах нацыянальнага самавызначэння беларускага народа. Толькі адзін штрых: у часе вулічнага тэлеінтэрв'ю на пачатку снежня мінулага года, менш чым за месяц да святкавання 70-годдзя БССР, далёка не ўсе з тых, каго інтэрв'юэр апытваў каля Беларускай дзяржаўнай бібліятэкі імя У. І. Леніна ў Мінску, змаглі дакладна адказаць на пытанне, хто такі Зміцер Жылуновіч. У Магілёве вынік падобнага апытання быў яшчэ больш сумны.

**Урэшце ў кампетэнцыі кіраўніцтва тэлестудыі рабіць і замены ў праграме тыдня: у дадзеным выпадку раней указваліся на той час іншыя перадачы. Думаецца, замену зрабілі так «ударна» таму, што 18 і 19 лютага ў Мінску мелі адбыцца «Дні жальбы», прысвечаныя памяці ахвяр сталінскіх рэпрэсій, а ў дадатак 19-га — яшчэ і гарадскі мітынг у падтрымку перабудовы, скліканы па ініцыятыве нефармальных арганізацый. Пайшла чутка, што некаторыя з нефармалаў збіраюцца прыйсці на мітынг з бела-чырвона-белым сцяжком ці са значком «Пагоні». Зразумела, тыя з нашых грамадскіх дзеячаў, якіх гэта страшэнна палохае, рыхтавалі проціяддзе супроць «небяспечных» сімвалаў. З той жа нагоды, як цяпер становіцца зразумелым, рабілася хутчэй за ўсё і тэлепраграма «Імем Беларусі...»**

**Ды, зрэшты, няхай сабе і так. Сапраўды, пара нам вучыцца плюралізму думак і шырока, ужываючы ўвесь спектр ведаў, фактаў і архіўных дакументаў, весці дыскусію, каб дазнацца ісціны аб сваім нялёгкім ды складаным мінулым — дзеля будучага, каб не даць паўтарыцца ні сталіншчыне, ні брэжнеўшчыне ў якім-небудзь сучасным іх варыянце. Усё было б нармальна, каб не шэраг нечаканых аналічнасцей. У тым ліку і для нас, аўтараў гэтых радкоў, якія былі запрошаны прыняць удзел у перадачы «Імем Беларусі...»**

Справа вось у чым. Запрашаючы нас да супрацоўніцтва, арганізатар і ён жа вядучы перадачы журналіст Ігар Рудамётаў *запэўніў: папярэдне* будуць паказаны новыя архіўныя кінафотадакументы, што тычацца дзейнасці Беларускай рады і наогул беларускіх буржуазных нацыяналістаў. Затым — дыскусія. Нарэшце, сказаў Рудамётаў, калі матэрыял зманціруюць, нас запросяць на папярэдні прагляд і кожны завізіруе сваё выступленне ў кантэксце ўжо ўсёй перадачы. Зусім дэмакратычна.

І вось запіс тэлеперадачы, і першая нечаканасць: ніякіх новых матэрыялаў фактычна не паказваюць, кожны карыстаецца тым, што назапасіў папярэдне сам ці прынёс у студыю. Праўда, І. Рудамётаў зачытвае са сшытка такія-сякія выпіскі з таго «новага» і амаль адразу пачынае націскаць на варожыя намеры і дзеянні «нацыяналістаў», у тым ліку паэта Алеся Гаруна. Кінадакументы ж наогул не паказваюцца. Іх мы ўбачым толькі потым, ужо на тэлеэкране, тады ж пачуем і свае зманціраваныя згодна з намерамі арганізатара гэтай праграмы выступленні, што так і пайшлі ў эфір без нашай візы.

Тым не менш першая частка, нягледзячы нават на адкрыта тэндэнцыйны дыктарскі тэкст (пра гэта скажам далей), неяк яшчэ так-сяк трымаецца ў межах прыстойнасці. Тэлегледачы нават змаглі пачуць ад прафесара А. І. Залескага меркаванне, якое можна лічыць значным,— ён першы з гісторыкаў адзначыў: Беларуская Народная Рэспубліка — не зусім і эфемернасць, а ўсё ж дзяржаўнае фарміраванне, хоць і з кароткім перыядам існавання. Прызнаемся, нашы меркаванні на гэтую з'яву аказаліся больш сціплымі.

**Што нас, як удзельнікаў першай часткі перадачы, асабліва ўразіла, калі мы раптам убачылі матэрыял на тэлеэкране? Адсутнасць нават напаміну пра Усебеларускі з'езд і яго разгон у снежні 1917 года. Але ж гэты сюжэт аказаўся не толькі ў цэнтры ўвагі дыскутантаў, без яго амаль немагчыма зразумець ход далейшых падзей на Беларусі, у тым ліку і рэзкае адмежаванне амаль усіх нацыянальных грамадскіх дзеячаў ад Аблвыканкомзаха.**

**Уражвае таксама і адкрытая прадузятасць у паказе кадраў нямецкай кінахронікі 1918 года ў суправаджэнні дыктарскага тэксту, з якога вынікае, нібы гэта менавіта Беларуская рада і была вінаватая ў тым, што *германскія войскі акупіравалі* амаль усю Беларусь і потым заставаліся тут ужо нават на «ўзаконеных» падставах згодна артыкулам Брэсцкага міру.**

Аднак калі ў першай перадачы «Імем Беларусі...» яе арганізатар прытрымліваўся хоць нейкай бачнасці плюралізму поглядаў, аб чым зараз столькі размоў, то ў другой гульня пайшла ўжо зусім адкрыта ў адны вароты — закляйміць «нацдэмаў» і даказаць, як падкрэслівалася ў перадачы, «яднанне(?!) гітлераўскай і старажытнабеларускай сімволікі». Дзеля гэтага хутчэй за ўсё быў зменены больш чым напалавіну састаў «дыскутантаў», каб дзейнічаць у зададзеным кірунку ўжо без усялякіх пярэчанняў (праўда, былі ўсё ж спробы высвятляць ісціну, але патанулі ў напорыстым дыктарскім падагульненні). І не мела ўжо значэння, што перад тым двойчы дэманстраваўся дакумент: кіраўніцтва БНР, знаходзячыся ў эміграцыі, значыць, без знешняга ўціску, у 1925 годзе прызнала БССР і самараспусцілася. На жаль, каментатар нават адной фразай не ўспомніў, што многія і самыя аўтарытэтныя дзеячы БНР даверыліся Савецкай уладзе і, атрымаўшы амністыю, вярнуліся на радзіму, сталі сумленнымі працаўнікамі на ніве навукі і культуры. Некалькі разоў тэлегледачы ўбачылі фотаздымак членаў Народнага сакратарыяту Беларусі. Але вядучы так і не палічыў неабходным хоць аднойчы назваць гэтых асоб пайменна. А сярод іх жа можна было пазнаць і вядомага рэвалюцыянера Алеся Бурбіса, камуніста з 1921 года, намесніка Наркома замежных спраў БССР, і Аркадзя Смоліча, і яшчэ шэраг вядомых людзей, якія справай даказалі, што яны не гандлююць ні сумленнем, ні айчынай. Ні слова, на жаль, і пра тое, што ўсіх іх ашукаюць, што ўсіх чакала куля «варашылаўскага стралка» ў патыліцу ці пакутніцкая смерць за калючым дротам ГУЛАГа ў 30-я гады. Затое групка прадажных гітлераўскіх паслугачоў, якія выдавалі сябе за паслядоўнікаў ці прадаўжальнікаў беларускага нацыянальнага руху ў эміграцыі, падаецца з размахам. Тут арганізатар перадачы смела стыкуе і розныя гістарычныя сітуацыі, і малазначныя палітычныя групоўкі. Калі наогул можна мярзотнікаў і калабарацыяністаў лічыць за палітыкай, хоць бы і «нацыяналістычных», і нават спрабаваць весці іх радавод ад дзеячаў БНР. Гэта прыкладна тое ж, каб генерала Уласава, які перабег да гітлераўцаў і ўзначаліў так званую рускую вызваленчую армію, лічыць прадстаўніком савецкага генералітэта. Словам, з адвольным, без папярэдняга гістарычнага аналізу — адкуль што ўзялося — дзеянняў ці нейкіх асоб, ці ўжывання той жа нацыянальнай сімволікі нейкімі групкамі мярзотнікаў дзеля прыкрыцця асабістых мэт можна зайсці далёка. Не хацелася лішні раз гаварыць на гэтую цяжкую тэму, аднак вось жа даводзіцца.

**На жаль, арганізатар перадачы «Імем Беларусі...» гістарызмам не вельмі імкнуўся сябе абцяжарваць, а тыя са спецыялістаў-гісторыкаў, што аказаліся з ім побач, не здолелі яму дапамагчы ў гэтым. Інакш, канечне, у перадачы не было б не толькі перакручванняў з тлумачэннем нямецкай кінахронікі, але і такіх непрыхаваных падставак, як фотакопія «Пастановы ВЦВК аб прызнанні незалежнасці БССР» ад 5 лютага 1919 года. Спецыялісты ж ведаюць: гэта не арыгінал, а фальшыўка. Яна нарадзілася стараннямі несумленных музейшчыкаў. Арыгінал дакумента мае іншую назву ды і дату — 31 студзеня 1919 года. І падпісаны, дарэчы, не толькі Я. Свярдловым, як у фальшыўцы, але і А. Енукідзе. Ды толькі апошні трапіў потым, як вядома, у «ворагі народа», вось і знікла гэтае прозвішча ў 30-я гады з дакумента.**

Практычна грунтоўная і без падтасовак гаворка і аб стварэнні БССР, і аб тым, што адбывалася як на тэрыторыі рэспублікі, так і за яе межамі, у асяроддзі эміграцыі, у 20-я, 30-я, 40-я ды і ў наступныя гады, уключаючы брэжнеўшчыну, на тэлевізійным экране толькі пачынаецца. Дзеля агульнай народнай карысці вельмі неабходна весці яе сумленна, аб'ектыўна, без прадузятасці. Нам жа толькі застаецца зараз выказаць шкадаванне, што аказаліся міжволі ўцягнутымі ў гульні, якіх ужо столькі было ў так званыя «застойныя» часы.

**Віталь СКАЛАБАН,**
**Эрнест ЯЛУГІН.**

## З пошты «ЛіМа»

- **А пачалі не традыцыйна...**
- **Перакладчык для геолага Сарокіна**
- **Пра паркі Нясвіжа—з трывогай**

□

Прачыталі публікацыю «Якім быць помніку ў Курапатах» («ЛіМ», 3.II. 1989). «ЛіМ» адкрыў усяму свету Курапаты, яму нельга з-пад сваёй увагі выпускаць і пытанне стварэння помніка ў гэтых мясцінах. Пакуль конкурс на лепшы праект помніка не аб'яўлены, хацелася б падаць ідэю: каб помнік не распрацоўваўся ў «ключы» «слуп-абеліск», «скульптурная група» і падобных.

Няхай гэта будзе штосьці ў выглядзе Храма (капліцы). У ім прадугледзець месца для прозвішчаў усіх, каго ўдасца выявіць з рэпрэсіраваных на Беларусі, месца для фотадакументаў. Тут жа магла б быць афармлена і экспазіцыя дакументаў, пісьмаў, рэчаў і г. д. Яшчэ нам уяўляецца, што паабапал алеі-падыходу да помніка будуць змешчаны стэлы пра іншыя Курапаты на Беларусі, а пры ўваходзе на тэрыторыю — скульптурныя групы.

**Г. ЦІВАНАВА,**
**І. КРАМКО,**
**навуковыя супрацоўнікі Інстытута мовазнаўства АН БССР.**

□

Мінчане па праву ганарацца адной з самых прыгожых і велічных плошчаў горада-героя — плошчай Перамогі. Да ўрачыстага манумента і Вечнага агню прыходзяць пакланіцца мінчане і шматлікія госці беларускай сталіцы. Асабліва прыгожай стала плошча пасля нядаўняга рамонту, абнаўлення абеліска.

Аднак нельга не заўважыць істотны недахоп, а іменна — архітэктурную незавершанасць ансамбля. Размова ідзе аб афармленні комплексу жылых дамоў з бакоў вуліц Камуністычнай і Фрунзе. Калі з вуліцы Фрунзе будынкі глядзяцца ўрачыста, прыгожа, злучаны белымі калонамі, як бы порцікамі, дахі аздоблены дэкаратыўнымі рашоткамі, дык з супрацьлеглага боку нічога гэтага няма, архітэктура менш выразная, у выніку адчуваецца парушэнне архітэктурнага ансамбля ўсёй плошчы, яе недабудаванасць.

Так яно і ёсць. У сярэдзіне 50-х гадоў плошча Перамогі планавалася і будавалася ў адным вырашэнні. Потым наспела «мода» на спрашчэнне, утаенне ўсіх работ, плынь «супраць архітэктурных выкрунтасаў». Адзін бок плошчы паспелі закончыць, другому, мабыць, не пашанцавала. Так і засталася яна недабудаванай вось ужо на працягу 30 год. Дык ці варта эканоміць у такім урачыстым месцы, як плошча Перамогі, — святым для ўсіх нас? Магчыма, ёсць сэнс яшчэ раз вярнуцца да яе і завяршыць да 45-годдзя Вялікай Перамогі архітэктурны ансамбль аднайменнай плошчы.

**В. ФЕРАНЦ.**

г. Мінск.

□

У рэспубліканскіх газетах змешчана днямі заметка пад красамоўным загалоўкам «Любіць і берагчы прыроду». У ёй паведамляецца пра сесію абласнога Савета народных дэпутатаў, якая адбылася 24 лютага. Сказана, што сесія пачала работу не з традыцыйнага даклада, а з прагляду аматарскага кінафільма аб тым, як «па-варварску абыходзяцца з прыродай розныя прадпрыемствы вобласці» (патокі мазуту скідваюцца ў Свіслач і Бярэзіну, Ушу і Плісу, другія вялікія і малыя рэкі Міншчыны). Так, сесія, калі верыць газетам, пачала сваю работу — з трывожнага клопату аб паляпшэнні аховы прыроды. А чым яна скончыла сваё пасяджэнне? Чытаем: «Мінскай вобласці былі ўручаны пераходныя Чырвоныя сцягі Савета Міністраў БССР і Белсаўпрофа за высокія паказчыкі ў рэспубліканскім сацыялістычным спаборніцтве». Высокія паказчыкі — гэта, вядома, добра, гэта прыемна для працоўных Міншчыны. Але ж... Неяк не стасуюцца гэтыя ганаровыя, пераходныя сцягі з тым, што паказалі змагары за чыстую прыроду ў сваім фільме на пачатку сесіі. Больш таго — я падумала, а ці не трапілі ў лік узнагароджаных і тыя прадпрыемствы, якія скідваюць мазуту ў рэкі і азёры? Не сыходзяцца неяк тут канцы з канцамі...

**А. ЯЦКЕВІЧ,**
**інжынер.**

г. Мінск.

□

Прачытаў пад рубрыкай «Чытач прыйшоў у рэдакцыю» («ЛіМ», № 8 за 24 лютага) матэрыял «Ці звальняць геолага Сарокіна?». Я таксама геолаг, праўда, цяпер у асноўным толькі выкладаю геалогію, хоць у свой час працаваў менавіта ў той экспедыцыі, дзе цяпер працуе мой калега.

Перакананы, што мая праца таксама мае дачыненне да Беларусі. Таму і пачаў выкладаць геалогію на роднай мове. Дарэчы, на прапанову выкладаць свае дысцыпліны па-беларуску адгукнуліся і іншыя супрацоўнікі факультэта прыродазнаўства Мінскага педагагічнага інстытута — С. Ф. Зубовіч, А. Ф. Прохарчык, М. Г. Каўхута, Н. С. Юрцэвіч і іншыя.

Першыя крокі ў выкладанні на роднай мове паказваюць, што студэнты ставяцца да гэтай справы неабыякава, я ўжо чуў і адказы на іспытах на роднай мове, і пытанні, з якімі да мяне звярталіся студэнты. Праўда, калі-ніколі даводзіцца даць тлумачэнне таму ці іншаму слову, тэрміну, бо падручнікі нашы напісаны па-руску, нават слоўніка нельга набыць у краме.

Ужывалася беларуская мова ў геалагічнай навуцы ў асноўным у 30-я гады. У 1930 г. прафесар Горацкага сельскагаспадарчага інстытута Фрыдрых Вільгельмавіч Лунгерсгаўзен выдаў кнігу пад назвай "Уступ у геалогію Беларусі", якая, па сутнасці, з'явілася першым падручнікам па геалогіі Беларусі. Вось з тых часоў і не выдадзена ніводнага падручніка па геалогіі Беларусі на роднай мове. Што датычыцца навуковых прац, то можна адзначыць толькі некалькі зборнікаў артыкулаў, выдадзеных па-беларуску дзякуючы намаганням Г. І. Гарэцкага. Наогул, мы надта бедныя на літаратуру аб прыродзе, аб нетрах нашай рэспублікі! Вось, здаецца, была добрая справа: выдаць шэраг невялічкіх кніжачак (па-руску) серыі «Рэкі і азёры Беларусі». Дзеля гэтага шмат зрабіў прафесар БДУ В. М. Шырокаў. Але як мне паведамілі ў выдавецтве «Университетское», выданне гэта спыняецца. Шмат гадоў у «Народнай асвеце» ляжыць мой рукапіс аб нетрах і карысных выкапнях Беларусі, ці будзе ён выдадзены?

Чаму я пагадзіўся чытаць свой курс па-беларуску? Таму што ўжываў гэтую мову, калі абмяркоўваліся навуковыя праблемы, ішлі размовы, нарады пад старшынствам акадэміка Г. І. Гарэцкага ў яго лабараторыі, на пасяджэннях Беларускай антрапагенавай камісіі, калі працаваў з Г. І. Гарэцкім і іншымі калегамі ў полі. Мова жыве толькі тады, калі яе ўжываюць. Кожны з нас вывучаў тую ці іншую іншаземную мову ў школе, інстытуце, аспірантуры. А колькі з нас ведаюць яе? Вядома, я тут не кранаю сістэмы выкладання замежных моў у школах і ВНУ.

Я працаваў два гады на Кубе і авалодаў іспанскай мовай, каб на ёй гаварыць, чытаць лекцыі. У мяне не было іншага выйсця, бо працаваў без перакладчыка, а з 27 маіх кубінскіх калег рускай мовай валодала толькі адна кабета, якая скончыла аспірантуру пры нашай кафедры.

Вось на падставе такіх разважанняў я прыходжу да высновы, што толькі прызнанне беларускай мовы ў якасці дзяржаўнай здольна па-сапраўднаму спрыяць яе адраджэнню.

*Калі мы адной рукой будзем галасаваць за беларускую мову, а другой пісаць афіцыйныя паперы, выдаваць газеты, часопісы, аб'явы, назвы па-руску, у нас нічога не зменіцца.*

У нашым інстытуце зараз выкладаюць беларускую мову і літаратуру на ўсіх факультэтах. Няма сумнення, што гэта неабходна. Але ж ці можна вывучыць (і ці трэба вывучаць тым, хто валодае) мову за 100 і нават 200 гадзін на выпускным курсе? Гэта ж зноў — мова без ужытку, амаль як замежная. Некалі быў у нас студэнт Іван Гайцюкевіч. Ён гаварыў толькі па-беларуску. І вось у гэтым годзе здавала мне іспыты адна дзяўчына, якая таксама гаварыла па-беларуску і мела тое ж прозвішча. Родная сястра нашага Іванкі! Аказваецца, ёсць такія бацькі, якія выхоўваюць сваіх дзяцей не толькі на прыкладзе сваіх учынкаў, але і сваёю моваю!

Дык што ж з Сарокіным? На мой погляд — хай працуе, хай піша і гаворыць на роднай мове, хай будзе хоць адзіны прыклад на ўсю родную для мяне Беларускую геолага-гідрагеалагічную экспедыцыю. А дзеля справаздачы я бяруся зрабіць пераклад яго нататак на рускую мову. Без ганарару...

**Б. ГУРСКІ,**
**доктар геолага-мінералагічных навук, прафесар, загадчык кафедры фізічнай геаграфіі Мінскага педінстытута імя Горкага, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР.**

□

Мінск пакінуў сорак з лішкам гадоў, але выпісваю «ЛіМ», каб атрымліваць звесткі пра справы і жыццё ў Беларусі з першакрыніцы. Чытаю з цікавасцю ад пачатку да канца. Дарэчы, «ЛіМ» памагае ўспомніць мову. Акрамя таго, заказаў кнігі В. Быкава, І. Новікава і іншых нашых пісьменнікаў у магазіне «Кніга — поштай». Максімум праз паўгода спадзяюся асвоіць мову.

Я вучыўся ў сярэдняй школе № 25 імя Чарвякова (стаяла яна на былой Савецкай—цяпер Ленінскі праспект). Сям'я наша жыла непадалёк (па в. Валадарскага, 26). І вось што хацелася б сказаць. 25-я школа фармальна лічылася беларускай, але настаўнікі амаль усе ўрокі выкладалі на рускай мове, ці, як слушна заўважыў А. Асташонак у сваім апавяданні «Беларускі акцэнт», — на гарадской мове. Такім чынам, «негласное» адвучванне народа ад мовы пачалося даўным-даўно. Ды і вучні ў нашым класе, усе, як па заказе, адказвалі ці гаварылі паміж сабой на так званай «гарадской» мове. Выключэнне складаў толькі Алег Жылуновіч (сын Цішкі Гартнага) ды яшчэ некалькі вучняў. Безумоўна, астатнія, з імі і настаўнікі, скоса глядзелі на «вёску». Пасля вайны «русіфікацыя» беларусаў разгарнулася з асаблівай сілай. Тут адыгралі ролю найперш два фактары. Першы — гэта вынікі крывавых 30-х гадоў, калі была цалкам знішчана інтэлігенцыя, і другі — плынь працоўных з усіх канцоў краіны на аднаўленне разбуранай гаспадаркі і гарадоў рэспублікі. У большасці сваёй яны не разумелі мовы. Ды і мясцовыя гараджане, якія засталіся жывымі пасля фашысцкай акупацыі, стараліся падладжвацца пад мову гасцей, большасць якіх складалі рускія.

У апошнія гады я двойчы прыязджаў у Мінск. У аўтобусе, у тралейбусе, у трамваі, магазінах і таксі мне вельмі рэдка ўдавалася пачуць беларускую гаворку...

Успамінаецца школьны настаўнік беларускай мовы і аўтар граматыкі Навум Ігнатавіч Шэўчук (з 1937 па 1947 гг. — вязень Інтлага ў Комі АССР). Яго любіў увесь клас. Ён стаяў за чысціню беларускай мовы і расказваў нам пра багатую гісторыю нашых продкаў-беларусаў, пра нашу культуру, хоць, на першы погляд, яго справай з'яўлялася весці ўрокі строга па праграме. Аднак ён успамінаў імёны, якіх не было ў падручніках і якія ўсплываюць толькі сёння. У маёй памяці назаўсёды захаваецца ўдзячная памяць пра гэтага цудоўнага чалавека — падзвіжніка высакароднай справы.

**І. МАКАРЭВІЧ,**
**інвалід Вялікай Айчыннай вайны, ветэран працы.**

г. Енакіева.

□

Старажытны Нясвіж слаўны не толькі сваімі архітэктурнымі помнікамі, якія адносяцца да XVI стагоддзя. Вялікую каштоўнасць уяўляе унікальны парк Альба, які сёння знаходзіцца на мяжы поўнага вынішчэння.

У наш час у маляўнічай Альбе, дзе яшчэ можна сустрэць векавыя дрэвы, дубы па 500 і болей гадоў, размясціўся... завод. Спачатку ў 70-я гады невялікі спіртзавод пашырыўся да біяміцынавага, потым рызатарфінавага і, нарэшце, стаў вялікім біяхімічным монстрам. Усё гэта ў парку, якому няма аналага ў нашай краіне.

Яшчэ ў 1982 годзе ў дадатку «Архітэктура» да «Строительной газеты» буйным шрыфтам на паласе вылучылі ўрэзку, якая крычала: «У цэнтры старадаўняга парку будуюць завод, які пагражае загубіць гэты помнік ландшафтнай архітэктуры». Так яно і здарылася. Завод вырас, а мясцовасць ператварылася ў сметнік. В. Якавенка ў кнізе «Дайсці да ладу» (1985 г.) пісаў: «...тое, што адбываецца ў старадаўнім парку Альба, нельга назваць пралікам, як, напэўна, і блізарукасцю, маўляў, недагледзелі.

Невядома, на якую патрэбу спілавалі велізарныя трохсотгадовыя дубы, агаліўшы прастору на сто метраў... Але ўжо ў 1965 годзе генеральным планам забудовы раёна намячалася стварыць тут зону адпачынку. А вясной 1979 года ў розных інстанцыях загаварылі аб новай планіроўцы і забудове гістарычнага цэнтра Нясвіжа, аб рэканструкцыі і рэстаўрацыі яго помнікаў архітэктуры і аднаўленні помнікаў садова-паркавага мастацтва. Здавалася, гэта ўжо паратунак для Альбы... Але ішоў час, а завод будаваўся».

Вось так: колькі ні пісалі — нічога не мяняецца!

Звернемся да другога парку, які размясціўся пры палацы, — замкавым комплексе. Гэты парк усім вядомы і любімы. Нарэшце ў гэтым годзе пачалася рэстаўрацыя цудоўнага пейзажнага парку. Выдаткавана каля чатырох мільёнаў рублёў. Але ў пачатку работы і цяпер узніклі бясконцыя праблемы.

Парк высякаецца. Не шкадуючы ні здаровых дрэў, ні кустоў. Па алеях і палянах пусцілі вялізныя машыны, якія знішчаюць усё на сваім шляху. Вось што сказаў знаўца парку Г. Лістапад, які працаваў тут доўгія гады: «Праект рэканструкцыі зроблен непрафесійна. Работы вядуцца пад кіраўніцтвам непрафесіяналаў. Улік колькасці ссечаных дрэў не існуе, хаця кожнаму кідаюцца ў вочы жахлівыя памеры ссечанага. У асобных мясцінах парк цяжка пазнаць. Незразумела, чаму знікаюць здаровыя стогадовыя дрэвы, якія абяцаюць замяніць маладымі саджанцамі».

Але не толькі сякера ходзіць сярод хараства. Яшчэ адна бяда пагражае гэтаму гаротнаму парку. На гістарычнай Паповай горцы, якая прымыкае да так званага японскага саду, намерыліся распачаць грандыёзнае будаўніцтва. Так, новы санаторый вельмі патрэбны, але ж не ў парку яго будаваць. Беларускія археолагі мяркуюць нават, што тут было старое гарадзішча Нясвіжа, тут захаваўся фундамент капліцы. Некаторыя навукоўцы лічаць Папову горку часткай парку.

Неабходна вывесці біяхімічны завод, выкарыстаць некаторыя будынкі пад іншыя патрэбы, правесці асушэнне забалочаных мясцін, ачысціць каналы. Тут жа можна пабудаваць кэмпінгі для турыстаў, піянерскі лагер, пансіянат. Агульнымі намаганнямі і сродкамі можна было б зберагчы і адзін і другі старажытныя паркі.

А пакуль паркі Нясвіжа тэрмінова чакаюць дапамогі і абароны. Калі яе не будзе, мы страцім помнікі гісторыі, якія вярнуць ужо ніхто не зможа.

**К. ШЫШЫГІНА,**
**настаўніца.**

г. Нясвіж.

# Паралелі перасякаюцца

**«Новая хваля» ў беларускай фантастыцы**

ТЭРМІН «новая хваля» прымушае меркаваць, што была і «старая». Сапраўды, гісторыя беларускай фантастыкі пачалася ў 20-я гады творамі Я. Маўра, потым, ужо ў 50-я, прыйшлі М. Гамолка, В. Шыцік. У 60—70-я гады эпізадычна ў гэтым жанры выступаюць такія пісьменнікі, як К. Крапіва, Г. Папоў, Э. Скобелеў, Н. Цыпіс....

З лютага 1981 года ў газеце «Знамя юности» пачала рэгулярна выходзіць паласа, прысвечаная навуковай фантастыцы. Вакол яе сабралася група пачынаючых аўтараў, якія пішуць па-руску. Гэта і прадвызначыла далейшы шлях клуба «Цыялкоўскі». Стварэнню яго папярэднічала пасяджэнне камісіі СП БССР па фантастыцы і прыгодніцкай літаратуры, на якім была зроблена спроба намеціць перспектывы развіцця жанру.

Публікацыі ў «Знамени юности» дапоўніліся паласой «Галактыка» ў газеце «Чырвоная змена», потым падключыўся часопіс «Рабочая смена» (з 1988 года—«Парус», орган ЦК ВЛКСМ). А потым імёны нашых аўтараў пачалі з'яўляцца ва ўсесаюзных часопісах «Вокруг света», «Наука и техника», «Химия и жизнь», «Юный техник», у штогодніку выдавецтва «Молодая гвардия» і г. д. Цяпер у выдавецтве «Юнацтва» ляжыць некалькі зборнікаў, аўтарскіх і калектыўных. Адзін зборнік—у выдавецтве «Мастацкая літаратура».

Зараз некалькі слоў аб прадстаўніках навуковай фантастыкі, што працуюць у нашай рэспубліцы.

Б. Зяленскі і Я. Дрозд пачыналі працаваць як сааўтары (абодва матэматыкі-праграмісты). Але потым кожнага прывабіла сваё. Сумесна яны паспелі напісаць некалькі апавяданняў, лепшым сярод якіх з'яўляецца «Што дазволена чалавеку....» («Парус», 1988, № 1). Гэта аповяд пра робата, які ўчыняе злачынства. Аўтары адкрыта палемізуюць з трыма законамі робататэхнікі А. Азімава.

Б. Зяленскі, знайшоўшы сябе ў сатыры і гратэску, напісаў аповесць «Экспанаты рукамі не чапаць» («Рабочая смена», 1986, № 6). Яркімі экспрэсіўна-сатырычнымі фарбамі ў ёй апісваецца нейкая цывілізацыя яшчараў, слабаразвітая, але тым не менш яна ўхітраецца выйсці ў космас ды яшчэ і весці там паспяховыя захопніцкія войны ў імя «жыццёвай прасторы». Перад намі кідкі парафраз зямнога феадалізму. Падарожжы ў космасе ажыццяўляюцца з дапамогай «гравітацыйных ветразяў», самая магутная зброя—артылерыя (і то нядаўна вынайдзеная). І вось армада такіх караблёў прыбывае да Зямлі з захопніцкай мэтай. Аднак чалавецтва, якое далёка адышло ад часу сваіх першых палётаў у космас, нават не ўступае з агрэсарамі ў ваенны канфлікт. Яно проста саджае іх «пад каўпак», ператвараючы ў музейныя экспанаты.

Я. Дрозд піша зусім у іншай манеры. Яго апавяданні сур'ёзныя, разнастайныя па жанрах. Тэма перасцярогі пранізвае аповесць «Скарпіён» («Уральскі следапыт», 1988, № 5). Намалявана страшная карціна вынікаў ядзернай вайны. Аўтар імкнецца абудзіць нашы эмоцыі, ажывіць увесь комплекс чалавечых пачуццяў (як гэта робіцца ў «вялікай» літаратуры), прыадчыніўшы дзверы ў пекла і паказаўшы жахлівыя вынікі вайны. Чытачу, які мысліць і валодае ўяўленнем, ясная гуманістычная сутнасць апавядання.

Зусім заслужана гэтае апавяданне атрымала прэмію часопіса «Уральский следопыт» за 1988 год.

У крытыцы навуковай фантастыкі распаўсюдзілася думка, што таму, хто зноў бярэцца за ўжо даследаваную тэму, цяжка пазбегнуць паўтораў. Аднак у самым факце паўтору няма нічога кепскага, таму што кожны новы аўтар піша ў іншай мастацкай манеры, чым «першапраходца». Таму, нягледзячы на тое, што ў НФ вялікую ролю іграе прыярытэт у мастацкім увасабленні нейкай навукова-фантастычнай ідэі, практычна ніводная з іх не можа атрымаць поўнага і канчатковага ўвасаблення ў адным творы. Гэта нагадвае дэбют у шахматах: першыя хады, як лепшыя ў дадзенай сітуацыі, робяцца стандартнымі, а потым ідзе пошук новага і арыгінальнага працягу.

Штосьці аналагічнае мы бачым і ў апавяданні С. Трусава «Доўгае імгненне Гірсана» («Рабочая смена», 1985, № 10). У ім прагдядваюцца «дэбютныя хады» з 24-га падарожжа Іёна Ціхага («Вяртанне з зорак» С. Лема), можна яшчэ прыгадаць «Востраў жалезных птушак» А. Дотэля. Гаворка ідзе аб стварэнні нейкай машыны, якая ўводзіць у цывілізацыі ідэальны парадак і падтрымлівае яго. Падтэкст апавядання, псіхалагічна завостраны спецыфічнымі навукова-фантастычнымі прыёмамі, нясе ў сабе аспект сацыяльнай надзённасці.

Апавяданні М. Арэхава і Г. Шышко перш за ўсё дасціпныя. Адно з іх—«Герыльера» («Чырвоная змена», лістапад 1986)—валодае яшчэ і глыбінёй, надзённасцю. Паказваючы грамадства будучага, аўтары ўводзяць вобраз героя—цэнзара будаўнічых работ, не спецыяліста па будаўніцтве, а паэта! Ён кантралюе экалагічныя параметры збудаванняў, эстэтычныя катэгорыі іх, дае «дабро» на ўзвядзенне аб'ектаў ці забараняе будаўніцтва. Калі ўдумацца, гэта цікавая ідэя, яна развівае тыя працэсы, якія ўжо ідуць на самай справе. Менавіта нашы паэты і мастакі першымі выступілі за выратаванне Байкала, Ладагі, поўначы Беларусі, Палесся, Арала.

Навуковая фантастыка, забягаючы наперад, прымушае тых, хто жыве цяпер, думаць над праблемамі нашчадкаў. Мы пакідаем ім у спадчыну не толькі радзіму, але саму планету, г. зн. біялагічны дом, у якім, пры ўсіх геафізічных бязладдзях і непарадках, чалавеку ўсё-такі жывецца ўтульна. А што яго чакае ў будучым?

На тэму выбару ёсць даволі цікавае апавяданне ў Н. Новаш. Яно так і называецца: «Каб зрабіць выбар» («Нёман», 1988, № 7). Гераіні прапаноўваюць штосьці незвычайнае: іншыя планеты, і там поўнае раскрыццё яе здольнасцей (хоць незразумела, якіх іменна). Адыход з Зямлі павінен быць імітаваны яе смерцю, пагібеллю ў катастрофе. Гераіня адмаўляецца... з-за недаверу да таго, хто прапаноўвае ёй умовы. У яе ўзнікае сумненне ў маральнасці, чысціні яго намераў. Да таго ж яна хоча ўратаваць сваіх сяброў, якія павінны загінуць не ўяўна, а па-сапраўднаму. Яна выратоўвае іх, застаўшыся на Зямлі.

Шмат публікацый мае У. Цвяткоў. Фантастычнае ў яго творах часцей за ўсё—прыём для раскрыцця агульначалавечага. У апавяданні «Другое лета» («Нёман», 1984, № 11) аналізуецца наступная сітуацыя: Хемінгуэй пераносіцца ў XXX стагоддзе і там зноў канчае жыццё самагубствам. Факт як быццам загадкавы, але наводзіць на роздум: ёсць, відавочна, нейкая непазбежнасць у працяканні псіхалагічных працэсаў. Праўда, Хемінгуэй пераносіцца ў іншую эпоху, а вакол яго ўзнаўляецца ўся тая абстаноўка, што была ў апошнія гады яго жыцця. Навошта гэта? Якая задача ў Хемінгуэя ў XXX стагоддзі?

Плённа працуе аўтарская пара М. Чадовіч і Ю. Брайдэр. На жаль, публікацыі ў такіх выданнях, як «Бярозка», «Рабочая смена», «Юный техник», адрасаваных юнацтву, прымушала аўтараў спрашчаць сюжэты, «аблягчаць» іх. Чамусьці лічыцца, што вучні старэйшых класаў і навучэнцы ПТВ, якія вывучаюць вышэйшую матэматыку і фізіку, хімію і біялогію, не могуць зразумець сур'ёзныя і складаныя навукова-фантастычныя творы. Але сама задума цыкла апавяданняў пра выпускніка экалагічнага вучылішча XXI ст. неблагая. У яе ўваходзіць шэраг дынамічных сюжэтаў, аб'яднаных праблемай ачысткі планеты ад засмечвання яе радыеактыўнымі адыходамі, што спарадзілі мутантаў-пачвар.

У аповесці «Пекла на Венеры» («Парус», 1988, № 7) цесна пераплецена некалькі сюжэтных ліній, адной з іх з'яўляецца карціна асваення Венеры як планеты з крайне складанымі для чалавека ўмовамі, безліччу небяспек. Гэта апісваецца аўтарамі з эфектным «натуралізмам». Другая лінія — людзі. Яны асвойваюць планету ў прымусовым парадку: іх ссылаюць туды для вырашэння дэмаграфічнай праблемы на Зямлі. Канфлікт аповесці — у сутычцы «аднаго з многімі», адзіночка ўступае ў барацьбу за карэнную змену сітуацыі.

У групу беларускіх фанта-

# «У НАС ТАКАЯ ЗАВЯДЗЁНКА...»

**Над старонкамі «Мёртвых душ»**

Мінулы год, хоць і не ўвесь, прайшоў у мяне «пад знакам Гогаля»: перакладаў на беларускую мову паэму «Мёртвыя душы».

Пра тое, як ішла работа, вельмі нялёгкая работа, пра мае салодкія пакуты ў пошуках беларускага эквіваленту (Гогаль жа, не абы-хто!), можна было б расказваць асобна і зусім не коратка. Творчае змаганне з любімым пісьменнікам шмат дало мне як празаіку, перакладчыку, чалавеку.

Але не пра гэта мой расказ.

Для пачатку можна было б паўтарыць за іншымі, які Гогаль мудрэц. Які празорлівы, прадбачлівы прадказальнік. Як глыбока мог ён пранікаць у сутнасць рэчаў і з'яў, таго, што адбывалася і рабілася на неабсяжных прасторах Расійскай імперыі, і ўжо тады мужна насміхацца з ўсяго, што замінала, што цягнула краіну ў прорву адсталасці і коснасці.

Твор, які пісаўся амаль паўтара стагоддзя назад, і сёння гучыць... злабадзённа! Шмат з таго, што высмейваў пісьменнік яшчэ ў той час (во жывучасць, во здольнасць мімікрыі!), і цяпер яшчэ не зжыта, учэпіста карэніцца, падшукваючы спрыяльную глебу, блытаецца пад нагамі, устаўляе палку — даруйце за банальнасць — у колы лакаматыву прагрэсу, імкнецца ўзяць верх над здаровымі сіламі і людскімі памкненнямі.

Пэўна ж, ідучы ў рожкі з афіцыяльнай асіміляцыйнай палітыкай царскага самадзяржаўя, М. В. Гогаль пісаў: «...незлічоная колькасць плямёнаў, пакаленняў, народаў тоўпіцца, стракаціць і мітусіцца па твары зямлі. І кожны народ, які мае ў сабе дастаткова сілы, напоўнены творчымі здольнасцямі душы, сваёю яркаю асаблівасцю і іншымі божымі дарамі, кожны своеасабліва вылучыўся сваім родным словам, якім называе любы прадмет, ужо ў гэтым выкананні адлюстроўвае частку менавіта свайго характару».

Гогаль не быў марксістам, не валодаў метадамі дыялектычнага і гістарычнага матэрыялізму. А гэта ж трэба так падцерці нос некаторым нашым марксістам пры пасадзе і акладзе, з партбілетам у кішэні! У адрозненне ад іх Гогалю люба ўся разнастайная чалавечая супольнасць зямлян з іх асаблівасцямі, а не плантацыі на ўсю зямную цвердзь адной монакультуры, падстрыжанай па адным узоры. Ён за зямлю, якая квітнее ўсімі краскамі, ззяе буйствам рознакалёрных фарбаў вясновага лугу, а не за аднастайную безаблічнасць.

А як хацелася некаторым нашым цывілізаваным вурдаланам і яшчэ хочацца, каб сотні народаў нашай краіны пазбавіць таго, што дадзена ад бога, падстрыгчы і прычасаць усіх пад адзін грэбень, прымусова «дазволіць» вучыць адну мову вялікай нацыі, а іншыя паступова вытоптваць і чавіць, каб чалавек і бацьку з маткай не мог на сваёй мове назваць...

Бязлітасна выкрываючы і ўскрываючы болькі і язвы тагачаснага ладу жыцця, Гогаль прадбачыў, як будзе сустрэты яго твор. «Яшчэ абрынуць на аўтара абвінавачванне і так званыя патрыёты, якія спакойна сядзяць сабе па закутках (...), але як толькі здарыцца штосьці, на іх думку, зняважлівае для бацькаўшчыны, з'явіцца якая-небудзь кніга, у якой скажацца часам горкая праўда, яны выбегуць з усіх кутноў, як павукі, якія ўбачылі, што заблыталася ў павуціну муха, і падымуць раптам крык: «А ці добра гэта выводзіць на свет, абвяшчаць пра гэта? Бо ўсё ж гэта, што тут апісана, усё гэта наша — ці добра гэтак? А што скажуць чужаземцы? Хіба прыемна чуць пра сябе кепскую думку? Думаюць, што гэта не баліць? Думаюць, што мы не патрыёты?»

Ну — чым не праекцыя на нашы дні? Хіба толькі тады былі такія павукі? Хіба не сустракалі ў штыкі і ў нас вострыя, праўдзівыя кнігі? Хіба не вешалі на аўтараў «усіх сабак», не рабілі «аргвывадаў», не паказвалі «кузькину мать», не высылалі, куды Макар і цялят не ганяў і да т. п.? Хіба не пыліліся некаторыя творы дзесяцігоддзямі па аўтарскіх шуфлядах, ніяк не могучы адолець бюракратычна - перастраховачны бар'ер паміж рукапісам і кнігаю?

Уга, як раздаўся ў плячах цяперашні «так званы патрыёт», як падужэў, а то і дай бог якою пасадаю абзавёўся. Ён у большасці выпадкаў не сядзіць ціха «па закутках». Ён не толькі «бдит» і ўдзень, і ўночы, ён ажно сінее з крыку (і іншых прымушае) пра свой патрыятызм і інтэрнацыяналізм, абвінавачваючы направа і налева тых, хто патрыёт сапраўдны, у нацыяналізме, экстрэмізме; не сорамна яму абзывацца і самазванцамі, і пенаю, і калялітаратурнымі прыліпаламі, загадвае выяўляць і браць на ўлік «инакомыслящих», каб у выпадку чаго... Як гэта ўсё знаёма, які агідны смурод патыхае ад таго, што асуджана гісторыяй на тло! Крэўныя сваякі патрыётаў з дубінкамі і тыя, якія нават гангрэнозную язву, што развілася на целе нашага грамадства, гатовы абвясціць (і абвяшчаюць нават дасюль!) роднай-раднюсенькай, недатыкальнай, бо гэтая язва-хвароба — наша, «сацыялістычная», і ёю трэба нават ганарыцца, бо гэта хвароба росту і паступальнага руху наперад.

Вядома ж, Мікалай Васільевіч, каму прыемна чуць пра сябе кепскае. Вядома ж, балюча такое чуць. І, канешне ж, узрадуюцца чужаземцы ад усяго вынесенага на паказ і выкрытага. Але ж ТРЭБА выслухаць, пачуць сказаную публічна праўду, і перацярпець боль і сорам, каб урэшце зрабіць адпаведныя вывады, ачысціцца ад брыдасці раз і назаўсёды. Аднак ад таго шоку, што атрымалі цяперашнія «патрыёты» на XXVII з'ездзе КПСС і XIX партканферэнцыі, яны ўжо ачунялі, нават перафарбаваліся, каб забегчы наперад перабудовы. Але не відаць, каб яны зрабілі адпаведныя вывады, бо палітыка іх засталася такая ж самая, толькі яшчэ больш каварная і хлуслівая. Як і раней, па словах М. В. Гогаля, «...думаюць яны не пра тое, каб не рабіць кепска, а пра тое, каб толькі не казалі, што яны робяць кепска».

Ах, Мікалай Васільевіч, Мікалай Васільевіч... Нават сасніць ты не мог, што будзе праз сто пяцьдзесят гадоў... Што настане час публічнасці, і гэтую публічнасць і плюралізм думак некаторыя босы ад прапаганды і ідэалогіі зразумеюць толькі як гульню ў адны вароты. Іншым жа, хоць бы так званым нефармалам ці сябрам «Мартыралога Беларусі», прыхільнікам руху за перабудову «Адраджэнне» не дадуць нават і лапіка ў газетах, каб выказаць публічна сваю думку, выкласці свае прапановы і праграмы па справе перабудовы. Нават на незаслужаныя публічныя аплявухі і паклёп не змогуць яны, зняважаныя, адказаць ні словам, ні паўсловам. А калі ўсё ж захочуць пры выпадку сказаць людзям з вуснаў у вусны, у дзеянне будуць прыведзены стройныя шэрагі людзей у форме колеру марэнга...

Яшчэ тады М. Гогаль адзначыў, што ў нас «...штохвілінная зрыхтаванасць ёсць, бадай, на ўсё. Мы раптам, як падзьме вецер, завядзём таварыствы дабрачынныя, заахвочвальныя і невядома якія. Мэта будзе прыгожая, а пры ўсім пры тым нічога не атрымаецца. Можа быць, так здараецца ад таго, што мы раптам здавальняемся ў самым пачатку і ўжо лічым, што ўсё зроблена». Не ў брыво, а ў вока... Быццам не дарэформенную Расію меў на ўвазе пісьменнік, а сённяшнія нашы дні. Дый не толькі сённяшнія. Не раз, і не два, калі і не дзьмулі яшчэ вятры, а толькі адчуваліся свежыя павевы (і то, калі добра прыпякала), ствараліся ў нас новыя арганізацыі і таварыствы, камісіі і камітэты (а цяпер і ўсялякія фонды), а толку з усяго гэтага было мала. Сотні пастаноў і рашэнняў прымалася на ўрадавым узроўні па сельскай гаспадарцы, па забеспячэнні прамысловымі таварамі, бытавым абслугоўванні, і ўсе з абавязковымі фармулёўкамі аб ДАЛЕЙШЫМ павышэнні, паляпшэнні, аб ДАЛЕЙШЫМ уздыме, развіцці, укараненні і г. д. А воз і сёння калі не там жа, то зрушыўся слаба, а бывае, што і не ў той бок, куды дакляравалі, накіроўвалі, чакалі ці падказваў здаровы сэнс.

Яшчэ ў тыя гады з болем заўважыў Гогаль, як лютавала бюракратыя, як тапіла яна, нявечыла і глушыла, спраўляла скокі, як на касцях, над усімі разумнымі парываннямі перадавых людзей свайго часу. І падае на гэтую бюракратыю здзеклівую, знішчальную карыкатуру. Чычыкаў, галоўны герой «Мёртвых душ», сустракаецца з адстаўным палкоўнікам панам Кашкаровым. У гэтага «рэфарматара» была святая вера ў бюракратыю: варта было толькі, на яго думку, пабольш мець кантор, камітэтаў, камісій, і справа пойдзе. Ён і наадкрываў у сваёй вёсцы мноства ўсялякіх службовых устаноў з шыльдамі: «Дэпо земляробчых прылад», «Галоўная падліковая экспедыцыя», «Камітэт сельскіх спраў», «Школа нармальнай асветы пасялян» і г. д. А яшчэ прапаноўваў ён такі сродак — «адзець усіх да аднаго ў Расіі, як ходзяць у Германіі. Нічога больш, толькі гэта, і я даю вам слова, што ўсё пойдзе, як па масле: ажывуць навукі, узрасце гандаль, залаты век настане ў Расіі».

Калі Чычыкаў напрамкі, без цырымоній папрасіў уступіць мёртвых душ, Кашкароў сказаў яму — выкласці просьбу ў пісьмовай форме. «Папера пойдзе ў камісію па ўсякіх просьбах. Камісія па ўсякіх просьбах, адзначыўшы, перашле мне. Ад мяне яна паступіць у камітэт сельскіх спраў, там зробяць усякія даведкі і выпіскі па гэтай справе. Галоўны кіраўнік разам з канторраю ў самым хуткім часе накладзе рэзалюцыю, і справа будзе зроблена». Чычыкаў напісаў такую просьбу, захацеў сам азнаёміцца, што «гэта за камісіі і камітэты». Чыноўнік па асаблівых даручэннях патлумачыў яму, што «ў нас бесталковіца», «у нас такая завядзёнка — усе водзяць за нос пана. Ён думае, што ўсё як след, а на справе адна назва». Каб паскорыць справу, Кашкароў даручае просьбу Чычыкава «чалавеку, які толькі што скончыў універсітэцкі курс». У рэшце рэшт высветлілася, што ў Кашкарова няма чаго прадаваць, усё закладзена і перазакладзена. І Кашкароў ведаў гэта з самага пачатку, але дурыў галаву Паўлу Іванавічу. Плюнуў Чычыкаў і

стаў «новай хвалі» ўваходзяць таксама дзве такія яркія фігуры, як Сяргей Булыга і Аляксандр Патупа.

С. Булыга апублікаваў у друку і паставіў на радыё каля паўсотні казак, адна з самых значных — «Скараход» («Парус», 1988, №7) У ёй апісваецца варожасць двух відаў істот, адны з якіх поўзаюць, другія — лётаюць. Нечакана высвятляецца, што тыя, што лётаюць, паходзяць ад тых, што поўзаюць, і перад намі ўсяго толькі дзве фазы развіцця аднаго віду

Сваімі казкамі, у якіх часам чуюцца андэрсенаўскія інтанацыі, аўтар прымушае дарослага ўспомніць пра дзяцінства, а дзіця вельмі натуральна далучаецца да свету дарослых.

А. Патупа піша не толькі навукова-фантастычныя апавяданні, ён аўтар навукова-мастацкай кнігі «Бег за бясконцасць». Фантастыка ж дапамагае яму больш ярка праявіць сілу думкі. Ранняе яго апавяданне «Эфект Лакімэна» («Фантастыка-84») яшчэ даволі традыцыйнае і пабудавана на «фаўстаўскім матыве».

Што датычыць апавяданняў «Таймкіпер, або Глыток будучыні» («Парус», 1988, № 7) і «Пастка ў цэйтноце», то яны напісаны ў своеасаблівай манеры. А. Патупа скарыстаў прыём, вынайдзены С. Лемам: напісанне рэцэнзій на выдуманыя творы. Праўда, у С. Лема падобныя рэцэнзіі грашаць груваснасцю, перагружанасцю меркаванняў, з'яўляючыся па сутнасці новым відам філасофскага трактата. Ёсць гэта і ў А. Патупы.

Узяць апавяданне «Пастка ў цэйтноце». Перад намі шэраг унутраных маналогаў ігракоў у нейкія супершахматы, маналогі прамаўляюць і самі фігуры (сутнасць супершахматаў у тым і заключаецца, што фігуры таксама надзелены розумам і могуць уплываць на ход гульні). Ігракі і фігуры разважаюць пра партыі, пра становішча, якое склалася на дошцы, пра перспектывы гульні. Паступова робіцца ясна, што апавяданне па сваім ідэйным змесце шматзначнае, хоць у ім гаворка ідзе як быццам пра канкрэтную шахматную партыю. За знешнім дзеяннем паўстае праблема адносін двух відаў разумных рас: чалавека і электронных стварэнняў, розуму чалавечага і розуму штучнага, а выраз: «нельга гуляць з роўнымі табе па інтэлекце, як звычайнымі драўлянымі фігурамі, нельга аперыраваць іх лёсамі без іх актыўнага ўдзелу ў свеце» раптам высвечвае яшчэ адну — самую галоўную — думку апавядання: перад намі даволі пэўныя адносіны ўлады і чалавека.

Да ліку не зусім раскрыўшых яшчэ свае магчымасці аўтараў адносяцца А. Эйпур і В. Пугач.

Трэба сказаць, што фантасты ўсё больш праяўляюць цікавасць да звычайнага чалавека, усё часцей у іх творах бярэ верх паэтычны пачатак, больш тонкім і натуральным робіцца філасофска-сацыяльны аспект. Вялікія спадзяванні мы ўскладаем на тое, што да фантастыкі звяртаюцца вядомыя пісьменнікі-рэалісты. Акрамя апавядання Б. Сачанкі «Тыя», аповесцяў А. Адамовіча «Апошняя пастараль» і Г. Папова «За трыдзевяць планет», можна дадаць В. Гігевіча — аповесць «Карабель» («Полымя, 1988, №8), У. Някляева з яго фантастычна - дакументальнай прыпавесцю «Вежа» («Полымя», 1988, №6) і М. Матукоўскага, які напісаў сатырычную камедыю «Мудрамер» («Полымя», 1987, №9). Пісьменнікі-рэалісты прыўносяць у фантастыку высокі ўзровень таго мастацкага вобразнага мыслення, якое дазваляе чытачу ўспрымаць літаратурныя творы як выяўленне пэўнай аб'ектыўнай рэальнасці. Тры лініі — фантастыка, рэалізм, навука — тэарэтычна ідуць паралельна, а на практыцы знаходзяцца ў стане ўзаемадзеяння і ўзаемапранікнення. Сапраўды, «паралелі» перасякаюцца.

**Г. АНУФРЫЕЎ,**
**загадчык рэдакцыі філасофіі выдавецтва «Універсітэцкае»,**
**С. САЛАДОЎНІКАЎ,**
**дацэнт кафедры літаратуры Мінскага інстытута культуры.**

**паехаў ні з чым. Затое Кашкароў быў задаволены гэтым візітам госця, дзякаваў Чычыкаву за тое, што даў яму «выпадак на справе ўбачыць ход вытворчасці», што яго налучыла светлая, шчаслівая думка: «Стварыць новую камісію, якая будзе называцца камісіяй па нагляду за камісіямі па будаўніцтву, так што ўжо ніхто не асмеліцца ўкрасці».**

**Камісіі над камісіямі, камітэты над камітэтамі... А ці не так і ў нас спрабавалі вырашыць складаныя народна-гаспадарчыя пытанні, бясконца рэарганізуючы кіраўніцка-чыноўны апарат? Хіба не так спрабавалі змагацца з раскрадальнікамі грамадскага дабра, сацыялістычнай маёмасці, з бракаробамі, з дробнымі жулікамі — несунамі? Другі пан, да якога Гогаль не хавае сваёй сімпатыі, гаспадарнік і руплівец Кастанжогла, так сказаў пра Кашкарова: «Ён таму патрэбны, што ў ім адлюстроўваецца карыкатурна і відавочна дурнота людзей разумных». А колькі і ў нас яшчэ «дурноты людзей разумных», якія аберуч трымаюцца за бюракратычна-камандны стыль кіравання народнай гаспадаркай, усё топячы ў інструкцыях, парадах, дыктаце, рэгламентацыях, узгадненнях, забаронах, нарадах, пасяджэннях... А хіба гэта не «дурнота людзей разумных», што ў нас дасюль у некалькі разоў больш міністэрстваў, чым у ЗША? І як ні скарачаецца кіраўнічы апарат, колькасць чыноўнікаў, усялякіх функцыянераў-службоўцаў не хоча змяншацца: кожнаму падшукваецца новае месца.**

**Чытаеш другі том «Мёртвых душ» і бачыш, што Мікалай Васільевіч «уключыўся» нават і ў нашу дыскусію «Якой быць савецкай школе?» і ўнёс свае думкі - прапановы па праблеме народнай адукацыі. Пісьменнік, па ўсім відаць, цалкам падзяляе прынцыпы выкладчыка і дырэктара вучылішча Аляксандра Пятровіча, які вучыў панскага сынка Андрэя Цяцетнікава. «Малаздольных выпускаў ён на службу з першага курса, сцвярджаючы, што іх не трэба доўга мучыць: хопіць з іх і таго, што яны прывучыліся быць цярплівымі стараннымі выканаўцамі...» З разумнымі і здольнымі займаўся яшчэ доўга, выкладаў ім і навуку жыцця. Для такіх «з навук былі выбраны толькі тыя, якія былі здольныя стварыць з чалавека грамадзяніна сваёй зямлі (! — П. М.). Большая частка лекцый складалася з расказаў пра тое, што чакае чалавека ўперадзе на ўсіх абсягах і прыступках дзяржаўнай службы і прыватных заняткаў. Усе прыкрасці і перашкоды, якія толькі нагрувашчваюцца перад чалавекам на яго шляху, усе спакусы і выпрабаванні, якія яшчэ будуць, выяўляў ён перад імі ва ўсёй агаленасці, не прыхоўваючы нічога».**

**А ў нас жа і здольнага, і няздольнага, а то і тупога ледзь не за вушы цягнуць, ледзь не ў спіну штурхаюць, каб прапусціць праз усе класы сярэдняй школы («Даеш усеагульную сярэднюю! Пабольш пылу ў вочы капіталістам!»). Выпхнуты такім чынам са школы выпускнік, возьмем хоць сераднячка, хоць моцнага вучня, ніякага ўяўлення аб жыцці не мае. Правільней, мае, але скажонае, прыхарошанае, падфарбаванае ў ружовыя фарбы і фарбачкі. Дык мала таго, што малады чалавек не ведае, куды дзецца, паступаць ці не паступаць і ў якую ВНУ, за што пасля школы ўвогуле зацяць рукі (у большасці выпадкаў займацца справаю яму і не хочацца, яго не прывучылі да гэтага, а нават і разбэсцілі ўтрыманствам і гультайствам), дык гэты выпускнік яшчэ атрымлівае ад жыцця кухталі і выспяткі, яго спасцігае поўнае расчараванне ў рэчаіснасці. Хутка яго ружовае ўяўленне змяняецца на самае чорнае.**

**Як тут дзіву не давацца: у панскай Расіі, у вучылішчы, дзе вучыліся панскія дзеці і дзеці саноўнікаў, чыноўнікаў, і то рыхтавалі да працы, да сустрэчы з цяжкасцямі ў жыцці, праігрывалі, як на шахматнай дошцы, усемагчымыя варыянты абставін, мадэліравалі эпізоды, што маглі сустрэцца ў паўсядзённым жыцці. А ў нашай, у самай перадавой, самай прагрэсіўнай школе (якія яшчэ эпітэты разгульвалі не так даўно на старонках нашага друку — прыпомніце самі), — такое вось навучанне: мала што патрэбнага давалася для розуму, яшчэ менш — для сэрца. Тады выхоўвалі «грамадзяніна сваёй зямлі», цяпер — толькі інтэрнацыяналіста, які не ведае нічога свайго, нават часам ненавідзіць сваё.**

**Дзякуй табе, Мікалай Васільевіч, што я зноў прычасціўся з тваіх светлых, жыватворных, бруістых крыніц.**

**Павел МІСЬКО.**

*Наш календар*



# ЯЕ ДОМ ПАЭЗІІ

**Да 60-годдзя з дня нараджэння Еўдакіі ЛОСЬ**

Прырода надзяліла яе добрым сэрцам, вострым зрокам, прарочым розумам і шырокай, спагадлівай душой. Яны і жывілі яе паэзію.

На самым пачатку творчасці, яшчэ зусім юная, поўная захаплення і светлых мар, улюбёная ў родную прыроду, яна паставіла перад сабой высакародную задачу—«праўду жыцця ўславіць». А можа, і не ставіла тады ніякай задачы, можа, проста падсвядома вырваўся з душы гэты радок, які стаў прарочым. Як і прадчуванне свайго вандроўніцкага лёсу:

Клічуць дарогі дальнія,
Клічуць дарогі блізкія,
Клічуць асфальтам
люстраным,
Прасёлачнаю смугой...

Ходжаныя і няходжаныя,
Езджаныя і н响езджаныя—
Клічуць ва ўсе куточкі
Роднага краю майго.

. . . . . . . . . . . . . .

Вочы мае, не стамляйцеся,
Ногі мае, не пужайцеся,—
Клічуць дарогі свету,
Клічуць наперад мяне!

Вайна адняла ў яе дзяцінства, адняла любімага брата Сяргея, многа радні і школьных сяброў. Пра іх паэтэса напісала шмат шчырых радкоў. Асабліва шчымела яе сэрца аб загінуўшых і скалечаных дзецях, маладых удовах, адзінокіх жанчынах. Водгулле вайны бегла ўслед за ёй усё жыццё, не давала спакою:

Гэта я
калачуся, як ліст,
а не сястра і брат,
гэта ў мяне
страляе фашыст
ледзь не трыццаць гадоў
падрад.
Гараць гарады, стогне зямля,
захлынаюцца рэчкі крывёй...
Я развяжуся з вайной
пасля,
Калі стану сама зямлёй.

Паэмы «Гавораць несмяротныя», «Вянок», «Мая Хатынь», «Слова пра вечныя зоркі» — праслаўленне гераізму савецкіх людзей і адначасова—праклён вайне. Пра гэта ж—і нізка легенд у апошняй, пасмяротнай яе кніжцы «Валошка на мяжы».

Яна любіла сваю вёску Старыну, што на Ушаччыне, яе працавітых людзей, любіла тую пясчаную зямлю, якая яе ўзгадавала. І як бы ні пашыралася тэматыка твораў паэтэсы Еўдакіі Лось, пра якія далёкія землі ні спявала б яна, круг яе думак замыкаўся заўсёды на гэтых дарагіх мясцінах яе дзяцінства. Радавалася, калі бачыла роскпіт, сумавала, калі сутыкалася з горам, бядотай і крыўдай. Перажывала не за сябе—за іншых.

Шчаслівая, што сэрцам
адгукнуся
На кожную праяву хараства,
Ад гора на зямлі
не адвярнуся,
Нібы ад ветру ніцая трава...
Ні пахвальбы, ні гонару
ў прызнанні,—
Шчаслівая жыву з гарой
турбот...
Даў бог мне сэрца, сэрцу—
хваляванне,
А іншых і не хочацца
даброт!

Сапраўды, лёс не песціў яе, часта кідаў з агню ды ў полымя. Не дасягнула яна высокіх пасад, не заслужыла тытулаў і званняў, не дачакалася літаратурных прэмій.

Не пабудавала яна і трывалага сямейнага шчасця. Усё аддала паэзіі.

Талент яе ўвачавідкі сталеў, набіраўся моцы. Рэцэнзуючы ў газеце «Звязда» яе трэці паэтычны зборнік «Людзі добрыя» (1963), старэйшы наш паэт Уладзімір Дубоўка пісаў:

«Калі ў першых дзвюх кнігах перад чытачом выступала проста здольная паэтэса, дык у трэцяй перад намі сталы майстар, са сваім «почыркам», са сваёй уласнай манерай пісьма... Яна не стаяла ніколі збоку ад жыцця... яна акунаецца ў жыццё, як кажуць, з галавой...» Пасля былі яшчэ зборнікі «Хараство» (1965), «Яснавокія мальвы» (1967), «Вянцы зруба» (1969), «Перавал» (1971), «Галінка з яблыкамі» (1973), «Лірыка ліпеня» (1977).

А крытыка маўчала. Пры жыцці паэтэсы не з'явілася ніводнага грунтоўнага артыкула пра яе творчасць. Затое колькі было дробных прыдзірак, ахайванняў. Да гонару Еўдакіі Якаўлеўны, трэба сказаць, што яна не любіла адбівацца ад нападак, апраўдвацца. Ішла сваёй дарогай далей — пісала новыя вершы. Калі спрачалася, дык па вялікім рахунку. І толькі пасля смерці ў яе архіве знайшлі вось такое:

Адной крытыкесе.
Заходзячы ў дом, выціраюць
ногі,
ідучы да стала, мыюць рукі...
Чаму ж ты, зайшоўшы
ў мой дом паэзіі,
не выцерла ногі,
рукі не вымыла?
Гэта робяць
нават мужчыны.

Смеласць сваю яна праяўляла больш у творчасці, чым за дыскусійнай трыбунай. Дастаткова прыгадаць яе паэму «Высакосны год». Ішоў 1972 год. Краіна рыхтавалася ўрачыста адзначыць свята — 50-годдзе ўтварэння СССР. А лета выдалася спякотнае: засуха выпаліла не паспеўшыя наліцца збожжавыя Паволжа і Кубані. Вакол Масквы гарэлі тарфянікі... Гэтымі малюнкамі прадбачання недароду і пачынаецца паэма. Праўда, далей паэтэса пераходзіць на аптымістычны тон, выказвае ўпэўненасць, што не спыніцца «наш рэй наперад». Тым не менш пасля апублікавання паэмы на старонках «ЛіМа» пасыпаліся званкі ў рэдакцыю — «што вы друкуеце?» і ў вышэйшыя інстанцыі—«што яны друкуюць?» На перастрахоўшчыкаў і «сігналізатараў» той час бедным не быў...

На пачатку сёлетняй вясны Еўдакіі Якаўлеўне Лось было б шэсцьдзесят. Для паэтаў канца дваццатага стагоддзя ўзрост яшчэ не крытычны. Магла б жыць, тварыць і нават узначальваць салідную творчую арганізацыю. Для тых, хто яе ведаў, няма патрэбы развіваць фантазію, каб уявіць паэтэсу Еўдакію Лось шасцідзесяцігадовай. Тым больш цяпер, у час перабудовы, аднаўлення дэмакратычных прынцыпаў ва ўсіх сферах жыцця. Яна па-ранейшаму ездзіла б па свеце, маладзілася і пісала б, пісала, пісала. Аб чым? Напэўна ж, сэрцам перахварэла б і за тых невіноўных ахвяр, што спачылі ў Курапатах, і за тых палкаводцаў, вучоных, пісьменнікаў, чые сляды згубіліся ў снягах Калымы. Парадавалася б за творчую моладзь новага прызыву,—таленавітую і мэтанакіраваную, смелую і актыўную. Ну, і вядома ж, стала б у абарону нашай роднай мілагучнай мовы, мовы, якая вывела яе ў вялікі свет:

Гляджу ў музеі
партызанскім
сваю падпольную «Звязду»...
І з родным словам,
не паганскім—
людскім, няскораным,
змаганскім
у свет, багатая, іду.
І свет ідзе ў мой горад ласкі,
пазбаўлены ўсялякіх звад.
І словы міру—«Калі ласка!»
ад сэрца кажа брату брат.

Хведар ЖЫЧКА.

**Уладзімір ВЕРАМЕЙЧЫК**

## Памяці Еўдакіі Лось

Хмары над вёскай ліхія,
Крыўдаю сэрца зайшлось.
Помніцца: Лось Еўдакія.
Помніцца: Дусечка Лось.

Бачыцца: дзесьці Ушачы.
Бачыцца: дзесь Старына.
Вецер над вёскамі плача:
Дзе зараз ходзіць Яна?

Верыцца: руціцца жвава.

Верыцца: спеліць радок.

...Мінскія могілкі. Травы.

Роднай магілы грудок.

## З паэтычнага сшытка

**Людміла ПАЎЛІКАВА**



### Тры падарожніцы

Тры падарожніцы немаладыя
Неяк сышліся ля брамы ў сцяне.
— Дзева самотная, хто ты?
— Марыя.
— Што тут стаіш?
— Не пускаюць мяне.

Горка ўздыхнулі, слязой арасілі
Дол і няхітрую ежу сваю.
— Як ты завешся, сястра?
— Ефрасіння.
— Што тут шукаеш?
— Радзіму маю.

— Скуль жа ідзеш ты?
— З Іерусаліма.
Доўга маўчалі. І дзень пацямнеў.
— Маці сівая, а ты хто?
— Радзіма.
— Дзе ж твае дзеці?
— Забылі мяне.

Ціха пастукалі ў браму. А людзі,
Пэўна, прыснулі, бо позні быў час.
...Ноччу ўсхаплюся — як стрэлілі ў грудзі.
— Хто ты? — пытаю.
Дыханне ў адказ.

### Вяртанне да жыцця

Зямля мая, зямля надзеі,
Я зноў з табой, люблю цябе я,
Нібы ў юнацтве халадзею
Ад гэтых слоў —
Люблю цябе.

Калі навучалі чужому кланяцца —
Мяне ашчаджала ты цішай ураніцы,
Забытыя сцежкі пад ногі кла̀ліся,
Забытыя словы ўсплывалі ў памяці.

Зямля мая, калыска долі,
Мая душа шчыміць ад болю,
Як птушка — просіцца на волю
Ад гэтых слоў —
Люблю цябе.

Калі па табе ўжо складалі рэквіем,
Мяне падымала ты зёлкамі-лекамі,
Жыццё спавядала — засмяглымі рэкамі,
Мурамі ўтравелымі і калекамі.

Зямля мая, зямля надзеі,
Я зноў з табой, люблю цябе я,
Нібы ў юнацтве халадзею
Ад гэтых слоў —
Люблю цябе.

### Непрыналежнасць

Няўдзячны раб
чакаў узнагароды.
І пасміхнуўся ў гневе гаспадар:
«Ну, што ж,
табе
дарую я... свабоду!»
А раб?
Ён — раб!
Пракляў ён гэты дар.

Раднёй,
нібы варожасцю —
і крэўнай! —
з'яднала нас дарога ў небыццё.
Скажы: «Памры!» —
І я памру, напэўна.
Маўчыш.
Ні смерць не дорыш,
ні жыццё.

Непрыналежнасць.
Даўкасць цішыні.
Шчыруе лёс.
Скупімся на адплату.
Як нашы душы высцюдзілі хату!—
А самі —
самі курчацца ў агні.

### Адцвітае жыта

...Я порывался даже в кабинеты
И зарекался—больше никогда!..
Уладзімір ВЫСОЦКІ.

Ужо не кветка.
І яшчэ не хлеб.
Каб толькі не схіліцца
у знямозе.
Магчыма, страшна класціся пад цэп,
але страшней —
застыць на паўдарозе.

...Прычасце сонца, глебы і вады...
Час і прастора —
створаны з адвагі!
Шчаслівы,
хто не ўведае жуды
ўзрасці пад бот
разбэшчанай знявагі.

Калі чынуша выбера да дна
тваю душу,
ды ветрыць на пляцоўцы.
Дзе вытанчанасць праўды —
там мана,
палова —
у мастацкай апрацоўцы.

Ды горш яшчэ за гэткую ману,
калі даверыш сам
свае трывогі.
Табе —
як дурню вызначаць цану,
без цырымоній кінучы
пад ногі.

*Магчыма, страшна класціся пад цэп,*
ды што ў жыцці —
раджаецца без мукі?
О, толькі б сэрца чыстае
і рукі
прынялі
навароджаны мой хлеб!

## Упершыню ў «ЛіМе»

**Галіна КАЛТУНОВА**



**Галіна Калтунова нарадзілася ў вёсцы Падгайна Карэліцкага раёна. У 1969 годзе скончыла філалагічны факультэт БДУ. Настаўнічае ў Карэлічах, з'яўляецца старшынёй раённага аддзялення Дзіцячага фонду імя У. І. Леніна.**

### Здорава!

Едуць на Балтыку,
На Чорнае мора,
Дзе кіпарысаў
Экзотыка танная.
А ў нас тут улетку —
Рамонкавы форум,
Зоры, як яблыкі,
Росы крыштальныя,
А вечарамі так пахне
Чаборам!
Здорава!

### Пра сябе

Я — прагны чалавек да шчодрасці, да шчасця,
Да цеплыні сардэчнай, дабраты людской.
Баюся, каб аднойчы не змаглі абкрасці
Мяне ў даверлівасці, шчырасці маёй.

●

Шчасце — давеку жыць дабратою,
Чуласць у горы на ўсіх дзяліць,
Ласкі, спагады жывой вадою
Сэрцы збалелыя шчодра лячыць.

### Маці

Адвечны доўг — перад чаканнем маці.
Ён не аплаціцца ніколі, не.
Адна надзея, што заўжды прабачыць,
Што зразумее і не папракне.

Сагрэе словам, мудрасці навучыць,
Любую роспач ласкай адвядзе.
Так і жыве: у клопатах пра ўнучак,
Пра нас, дарослых, любых ёй дзяцей.

**Ларыса ЧАРНЫШОВА**



## ГЛОСЫ

Скруха — салідарнасць у смяротнасці. Вечнае «ніколі» ў нявечным сэрцы. Скруха — попел, пляма апёку.

□

Дзіцёнак плача і скардзіцца: «Сябры не хочуць гуляць, кінулі мяне і пабеглі». — «Бяжы за імі».— «Не даганю». Ён самы маленькі сярод большых дзяцей, і ўжо праз гэта нешта ведае з адзіноты.

Адзінота — кожная слодыч гарчыць тваім прысмакам.

Вось жменя. У ёй пустэча. Чым поўніцца пустэча, да якога ведання вядзе адзінокага? Усе ведаюць, як гучаць дзве далоні, а як гучыць адна?

Жыццё па-за ўласнай душой ратуе больш надзейна. Давер — дзверы ў свет.

Адзінота — веданне праз страту.

Адзінокі — безабаронны: адзін у пустым полі кароль Лір. Халодны хаос.

Адзінота — набыткі праз пазбыццё.

□

Дабрыня — святло і цеплыня. Зло — цемра і холад. Дабрыня — даверлівасць і даравальнасць. Зло — страх і трывога.

«Дзе сэрца ваша, там і скарб ваш».

□

Чалавек самая няпэўная з усіх істот. Птушкам, дрэвам, жывёлам — не трэба шукаць свайго статка, сваёй чарады, каб сябе зразумець. Між чужых не палёту вучышся — абароне.

□

Вы трапілі ў жорсткі свет, дзеці хаосу, ніхто вас не песціў, не атульваў лагодай і ўседараваннем. Як і ўсе, вы цягнецеся да сонца, у яго ласкавыя абоймы, але спіну вам студзіць халодны вецер дзяцінства. Па-за вамі цемра, з якой вее сцюжай. Каб адагрэцца, вам трэба больш цяпла, чым іншым, больш кахання.

□

Дзень і ноч — два паралельныя светы, перагукваюцца, не сыходзяцца. Днём уладарыць будучыня, ноччу — мінулае, днём — мара, ноччу — успамін. Ноччу — ты нявольнік: бачыш, што згадае і загадае сон.

Удзень — заплюшчы вочы, калі страшна. Уначы — яны ўжо й так заплюшчаны.

□

*«Я гэтага не вытрываю!»* — будзённая патэтыка.

□

Ведаць гісторыю — карысна. Гэта пазбаўляе людзей ілюзій наконт сучаснасці. Ведаць гісторыю — шкодна. Пачынае здавацца, што тваё ўласнае жыццё — толькі глоса гісторыі твайго роду, народу, прыроды.

□

Для маладосці жыццё — служэнне звышасабістаму, а смерць — пераўцеляснение сваёй істоты ў вечным свеце. Яшчэ няма рабства свайму «я». Нястрашна змяніць аблічча, форму існавання.

□

Стары вучыцца пазбаўленню жыцця, як дзіцёнак вучыцца хадзіць і размаўляць. У кожнага ўзросту сваё прызначэнне.

□

Каханне — споведзь: цела — целу, душа — душы спавядаюцца.

□

Адчай не апошні прыпынак. Прывучышся да даляглядаў, выйдзеш за прывычныя межы, адчуеш смак нечаканасцяў, даверышся навізне і палюбіш яе. І ўжо не захочаш спыняцца.

□

Чалавек робіць сябе сродкам ідэі: нявечыць у сабе неадпаведнае ёй, культывуе адпаведнае. Вівісекцыя жыцця.

□

Перашкода з прычыны ўсеагульнай рухомасці сама з цягам часу міне. Навошта ж упадабляцца шаленцу, які, не зважаючы на апушчаны шлагбаум, кідаецца *напярэймы* цягніку, няздольны да чакання.

□

Кветка, пакуль жыве, пахне. Завяла — няма водару, знік. У чалавеку душа, можа, тое ж, што водар у кветкі? Не хочацца верыць, што такі цуд, як душа, можа загінуць. Але ж хіба цела не цуд? А вось гіне.

□

Свядомы эгаіст больш літасцівы за несвядомага. Несвядомы лічыць сябе альтруістам і патрабуе ад бліжніх непамернага.

□

Сон — сродак забыцця на цяперашняе коштам абуджэння ў мінулым.

□

«Сяброў выбіраюць у сябе на радзіме», — сказаў Салон Анахарсісу. Салон умеў трымаць людзей на дыстанцыі, таму і пражыў доўга, а шчыры Анахарсіс не ўмеў, за тое заўчасна і расплаціўся жыццём.

□

Гэтую трывогу можна заглушыць, але яна невынішчальная. У тыя імгненні яна голас падае, калі прагна любіш жыццё, зачараваны ім. Падумаеш: «Як хораша!» А ўслед крычыць трывога: «Як страшна гэта страціць».

□

«Спачуваннем можна знявечыць вялікі лёс». Не спачуваць іншым, каб дзеля іх не адхіляцца ад наканаванага шляху? Ці не прымаць спачуванняў, каб не абмякнуць, не страціць волю да пераадолення? *Мабыць, вялікі лёс не можа адбыцца без таго, каб вытрываць, выпаку-*

# Беларусы: колькі і дзе?

(Пачатак на стар. 5).

Публікацыі гэтага цэнтра — так званы «Мюнхенскі беларускі зборнік» — носяць выразна антысавецкі характар.

У Еўропе існуе таксама Беларускі інстытут культуры і навукі на Захадзе (ён знаходзіцца ў Рыме, выдае часопіс «Факел»), факультэт славістыкі універсітэта ў Капенгагене. У Канадзе дзейнічае Асацыяцыя канадскіх славістаў, Беларускі канадскі саюз у Таронта. У ЗША трэба адзначыць Беларускі цэнтр у Чыкага. Ёсць таксама яшчэ некалькі падобных арганізацый і выданняў.

Нельга сцвярджаць, што ўсе публікацыі пералічаных беларускіх арганізацый носяць адкрыта рэакцыйны, антыкамуністычны характар. Тым не менш, значная частка іх скіравана на тое, каб сказіць рэальнае становішча беларусаў у савецкім грамадстве, стварыць у чытача думку, што беларусы менавіта ўдалечыні ад сваёй Радзімы нарэшце знайшлі сваё шчасце, захавалі асноўныя рысы беларускай нацыянальнай культуры.

Пра нашых суайчыннікаў за мяжой мы, на жаль, не маем усёй інфармацыі, якая нас цікавіць. Але, тым не менш, некаторыя высновы аб іх адрозненні, скажам, ад іншых славянскіх народаў можна зрабіць. Па-першае, замежныя беларусы, калі можна так сказаць, вызначаюцца імкненнем да кампактнага рассялення. Так, напрыклад, у Злучаных Штатах Амерыкі ёсць населеныя пункты, дзе больш за палову насельніцтва складаюць беларусы (у штаце Айова знаходзіцца горад Су-Сіці, 80 працэнтаў насельніцтва якога складаюць выхадцы з былой Капыльскай воласці і самога Капыля). Таксама можна адзначыць, што за мяжой беларусы часцей, чым рускія, сяліліся калоніямі ў сельскай мясцовасці, хоць у той жа час большая частка беларусаў жыве ўсё-такі ў гарадах: Нью-Йорк і Вашынгтон у ЗША, Буэнас-Айрэс, Санта-Фе, Расарыа — у Аргенціне, Беласток у Польшчы. Цікава і тое, што беларусы за мяжой больш хутка, чым іншыя славянскія народы, моўна і этнічна асімілююцца, але асімілююцца ў першую чаргу з палякамі і рускімі.

На жаль, яшчэ раз хочацца гэта адзначыць, ніхто падобнымі даследаваннямі не займаўся. Больш таго, дакладна не вызначана агульная колькасць беларусаў, якія жывуць у іншых краінах. У адпаведнасці з нашай статыстыкай на 1959 год, за мяжой жыло прыкладна 130 тысяч беларусаў. Аднак з тых жа крыніц вынікае, што толькі ў Польшчы было ў 1957 годзе 200 тысяч беларусаў. Праўда, усяго праз два гады ў Польшчы колькасць беларусаў ацэньвалася ўжо ў 100 тысяч чалавек. Ніякімі палітычнымі ці дэмаграфічнымі прычынамі такое рэзкае зніжэнне не растлумачыць. Думаецца, што гэтую розніцу можна вытлумачыць імкненнем савецкай статыстыкі ўсяляк паменшыць колькасць беларусаў (рускіх, украінцаў і г. д.) за мяжой. У тым жа 1959 годзе налічвалася 10 тысяч беларусаў у Канадзе, 10 тысяч — у ЗША, 5 тысяч — у Аргенціне, 2 тысячы — у Вялікабрытаніі.

Асобна варта спыніцца на колькасці беларусаў у Польшчы. Адны савецкія крыніцы прыводзяць лічбу 150 тысяч, другія — 160 тысяч. У матэрыялах жа польскай статыстыкі, апублікаваных у часопісе «Ніва» — друкаваным органе беларусаў, якія жывуць у Польшчы, прыводзіцца лічба 376 тысяч. Столькі беларусаў жыло ў Польшчы ў 1967 годзе, галоўным чынам у Беластоцкім ваяводстве. Відавочна, пытанне колькасці беларускага насельніцтва ў Польшчы патрабуе больш стараннага даследавання.

На момант перапісу насельніцтва 1979 года беларусаў ва ўсім свеце было 9683 тысячы чалавек (у тым ліку ў СССР — 9,5 мільёна чалавек), прычым з гэтай колькасці 180 тысяч жыло ў Польшчы, 10 тысяч — у Канадзе, 20 тысяч — у ЗША, 5 тысяч — у Аргенціне. Звяртае на сябе ўвагу той факт, што колькасць беларусаў у ЗША з 1959 года павялічылася ўдвая. Калі ўлічыць, што за гэты перыяд часу міграцый беларусаў у ЗША не назіралася, што беларусы зведвалі моцны асіміляцыйны працэс, то растлумачыць гэтае павелічэнне колькасці можна толькі недакладнасцю прыводзімай статыстыкі.

У апублікаванай у 1987 годзе ў Мінску кнізе «Дары данайцаў» (выдавецтва «Беларусь»), сцвярджаецца, што беларусаў на Захадзе жыве каля паўтара мільёна. Нам здаецца, *што гэтая лічба моцна завышана.* Там жа гаворыцца, што з названай колькасці беларусаў прызналі сваю этнічную сувязь з беларусамі толькі 70—80 тысяч чалавек. Але, па-першае, якое адрозненне паміж беларусам наогул і беларусам, які прызнаў сваю этнічную сувязь з беларусамі? Па-другое, звесткі, прыведзеныя ў кнізе, не пацверджаны спасылкамі на статыстычныя крыніцы. Патрэцяе, калі з паўтара мільёна беларусаў, якія жывуць за мяжой, толькі 70—80 тысяч прызналі сваю этнічную сувязь з беларусамі, то як быць з 180 тысячамі беларусаў, што жывуць у Польшчы (па матэрыялах савецкай статыстыкі, дадзеныя ж польскай статыстыкі яшчэ вышэйшыя)?

Кніга «Дары данайцаў» напісана ў той стары «добры» час, калі яшчэ наша краіна не ведала падзей у Нагорным Карабаху і ў Прыбалтыцы; напісана з тых пазіцый, што нацыянальнае пытанне ў Савецкім Саюзе канчаткова вырашана. Гісторыя паказала, што такое легкадумнае стаўленне да нацыянальных адносін дорага каштуе нашай краіне.

Не можам мы пагадзіцца і з пунктам гледжання, выказаным А. Бажко і В. Пепяляевым у артыкуле «Паўночнаамерыканскія і брытанскія беларусы», апублікаваным у гэтым жа выданні. У ім літаральна ўсе так званыя «перамешчаныя асобы» залічаны ў стан антыкамуністаў, злосных ворагаў нашай Радзімы. Па дадзеных В. Раманоўскага і І. Новікава колькасць жыхароў Беларусі, якія не вярнуліся з фашысцкага палону, склала 260 тысяч чалавек. Няўжо ўсе яны былі ворагамі Савецкай улады?

АЦЯПЕР — паспрабуем скласці прагноз колькасці беларускага народа і прагноз нацыянальнага складу насельніцтва Беларусі на 2000 год. Мы ўзялі пад увагу змены нацыянальнага складу насельніцтва рэспублікі толькі за перыяд з 1970 па 1979 год. Разлічыўшы сярэдні прырост насельніцтва асобных нацыянальнасцей на кожны год дадзенага перыяду і пагадзіўшыся, што ён захаваецца і надалей, мы лёгка атрымалі колькасць насельніцтва асобных нацыянальнасцей у рэспубліцы ў 2000 годзе. Атрымалася, што ў Беларусі будзе жыць 10772 тысячы чалавек, у тым ліку беларусаў — 8215 тысяч чалавек, або 76,2 працэнта, рускіх — 1588 тысяч чалавек (14,7 працэнта), палякаў — 451 тысяча (4,2 працэнта), украінцаў — 323 тысячы (3,0 працэнта), іншых — 195 тысяч чалавек (1,9 працэнта).

Для складання другога прагнозу нацыянальнага складу насельніцтва рэспублікі на той жа год мы скарысталі больш працяглы перыяд — з 1959 па 1979 год. У выніку атрымалі наступныя лічбы: агульная колькасць насельніцтва рэспублікі ў 2000 годзе — 11084,9 тысячы чалавек, у тым ліку беларусаў прыкладна 8656 тысяч, ці 78,1 працэнта, рускіх — 1634 тысячы (14,7 працэнта), украінцаў — 334 тысячы (3,0 працэнта), палякаў — 260 тысяч (2,3 працэнта), іншых — 200 тысяч (1,9 працэнта). Канечне, нашы прагнозы не прэтэндуюць на дакладнасць. Мы прывялі іх толькі ў якасці прыкладу спробы ацаніць змены нацыянальнага складу насельніцтва рэспублікі на аддаленую перспектыву.

„БЕЛЫХ ПЛЯМ» беларускай дэмаграфіі, як мы гаварылі, яшчэ вялікая колькасць. Адзначым яшчэ некаторыя з іх. Адна з іх — страты беларускага народа ў гады сталінскіх рэпрэсій. Ніхто пакуль што нават і спробы не рабіў кінуць гістарычны погляд на беларускую дэмаграфію канца 20—30-х гадоў. Парадокс, аднак жа статыстыка 1897 года значна паўней і дакладней паказвала рэальнае становішча беларускага народа сярод іншых народаў Расіі, чым перапіс 1926 года, не кажучы ўжо пра перапіс 1938-га

Нацыянальныя праблемы ў савецкай навуцы доўгі час знаходзіліся ў ліку так званых «табуізаваных» праблем. З аднаго боку, ніхто афіцыйна займацца падобнай праблематыкай не забараняў, але, з другога боку, гэтыя працы не падтрымліваліся, амаль не публікаваліся.

На колькасці беларускага народа ў 30-я гады адбіліся не толькі фізічнае знішчэнне, звязанае са сталінскім тэрорам, але і масавыя дэпартацыі таго часу. Па падліках А. Н. Пешкавай шляхам арганізацыі планавага набору рабочай сілы з Беларусі за гады даваенных пяцігодак выехала 1 мільён 629 тысяч чалавек (наборы праводзіліся галоўным чынам у сельскай мясцовасці, так што перасяляліся галоўным чынам асобы беларускай нацыянальнасці). Значная колькасць перасяленцаў была накіравана ў лясную прамысловасць Еўрапейскай Поўначы (Архангельская, Мурманская вобласці, Комі АССР). Ведаючы, што гэтыя гады прыпалі на гвалтоўную сталінскую калектывізацыю, можна меркаваць, што пад «арганізаванымі наборамі» трэба разумець рэпрэсіўныя высылкі. Пра ўсё гэта яшчэ трэба сказаць праўду.

Да зусім не даследаваных дэмаграфічных з'яў, што адбіліся на колькасці насельніцтва Беларусі, можна аднесці голад 1921—1922 гадоў. Па падліках вядомага тады статыста П. Н. Папова, насельніцтва краіны за 1921—1922 гады скарацілася на 5,2 мільёна чалавек. Варта было б, нарэшце, назваць і лічбы памерршых ад голаду ў 1932 годзе ў Беларусі ў перыяд калектывізацыі. Трэба назваць і лічбу жыхароў Беларусі, расстраляных і замучаных у турмах і лагерах у 1937—1938 гадах.

Да ліку «белых плям» беларускай дэмаграфіі можна аднесці і гісторыю рассялення беларусаў па тэрыторыі СССР.

Доля беларусаў у насельніцтве краіны, як бачым у **табліцы 3,** скарачаецца (ад 3,8 да 3,6 працэнта). Тлумачыцца гэта ў значнай меры высокім узроўнем натуральнага прыросту насельніцтва сярэднеазіяцкіх, закаўказскіх рэспублік і Казахстана і шырокім распаўсюджваннем міжнацыянальных шлюбаў.

На колькасць і рассяленне беларускага народа вялікі ўплыў робяць міграцыйныя працэсы, але не толькі яны. Другі важны паказчык дэмаграфічнай дынамікі — узровень нараджальнасці. І тут не ўсё добра. У Беларускай ССР (як і ў РСФСР, УССР, рэспубліках Прыбалтыкі) сярэдняя колькасць нараджэнняў ніжэй за 2,15 чалавека на 1000 жыхароў, — гэта мяжа замяшчэння пакаленняў, тут не дасягаецца нават простае ўзнаўленне насельніцтва.

Праблемамі народанасельніцтва ў значна большай ступені, чым раней, павінны займацца цяпер палітычныя органы, урад і Вярхоўны Савет БССР. Зусім правамерна стварэнне ў яго складзе пастаяннай камісіі па нацыянальных пытаннях і міжнацыянальных адносінах. І не таму, вядома, што 10143 тысячы жыхароў рэспублікі мараць аб павелічэнні сваёй колькасці ў імя нейкай «дзяржаўнай палітыкі», а таму, што падае нараджальнасць (у 1985 годзе — 16,5 народжаных на 1000 жыхароў, а ў 1987 — 16,1). Ужо цяпер на тэрыторыі, якая ахоплівае 2/3 плошчы рэспублікі, назіраюцца неспрыяльныя сацыяльна-дэмаграфічныя працэсы (доля пенсіянераў дасягае 40 працэнтаў, моладзі — усяго 5—6 працэнтаў), што парушае неабходную гармонію ў структуры насельніцтва. Калі не зменіцца баланс прыросту, то праз 20—25 гадоў людзі сярэдняга ўзросту павінны будуць карміць значна большую колькасць старых, чым цяперашняе пакаленне ў працаздольным узросце. Тут гаворка ідзе, вядома, не пра пытанні маралі, не пра зразумелую павагу да старых людзей, не пра тое, што яны маюць і будуць мець права на адпачынак, а пра эканамічныя і дэмаграфічныя разлікі, якія, па многіх прычынах, выглядаюць не такімі ўжо раднаснымі.

ЗАСТОЙНЫЯ з'явы, якія востра праявіліся ў сацыяльнай і эканамічнай сферах жыцця на мяжы 70—80-х гадоў, не абышлі і дэмаграфічнае развіццё нашай рэспублікі, адбіўшыся на тэмпах росту насельніцтва. Перш за ўсё трэба адзначыць тое, што ў гэты перыяд была рэзка скарочана публікацыя статыстычных матэрыялаў пра дэмаграфічныя працэсы. Напрыклад, аб'ём статыстычнага штогодніка «Народное хозяйство СССР» за 1985 год быў на 200 старонак меншы, чым у 1975 годзе. І галоўным чынам — за кошт рэзкага скарачэння звестак аб натуральным руху насельніцтва і яго міграцыі. Зніклі з друку дадзеныя аб міграцыі паміж рэгіёнамі, горадам і сялом. Былі закрыты дадзеныя аб структуры захворваемасці насельніцтва. Ад вучоных-грамадазнаўцаў закрываліся цэлыя раздзелы сацыяльна-дэмаграфічнай статыстыкі. А інфармацыя па этнічных праблемах увогуле адсутнічала. У 1976 годзе былі закрыты і на працягу 10 гадоў не публікаваліся такія важныя сацыяльна-дэмаграфічныя паказчыкі, як працягласць жыцця, дадзеныя аб дзіцячай смяротнасці, узроставай структуры і інш. А паспрабуйце дзе-небудзь знайсці адкрытыя дадзеныя аб колькасці насельніцтва, якое жыве ў якім-небудзь малым пасёлку!

Аднак, як адзначыў прафесар Л. Рыбакоўскі, тое, што было схавана ад савецкіх грамадзян, для замежных дэмографаў тайнай не заставалася, выклікаўшы паток публікацый, домыслаў і далёка не аб'ектыўных ацэнак нашых бедаў у дэмаграфічнай галіне.

Вырашэнне нацыянальнага пытання ў Беларусі мае патрэбу ў аналізе этнадэмаграфічных працэсаў, якога пакуль няма. Думаецца, што цяпер самы час вырашаць гэтае пытанне, прытым комплексна. У «Асноўных мерапрыемствах па далейшым развіцці народнай асветы ў Беларускай ССР» гаворыцца аб неабходнасці стварэння ў складзе Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР аддзела па праблемах нацыянальных і міжнацыянальных адносін, які мог бы засяродзіць асноўную ўвагу на даследаванні фактараў развіцця этнакультурных працэсаў (нядаўна тут створана невялікая група па вывучэнні нацыянальных адносін). Інстытут мовазнаўства АН БССР імя Я. Коласа павінен быў бы, на наш погляд, заняцца вывучэннем і выпраўленнем вельмі сур'ёзных дэфармацый у галіне моўнай палітыкі і практыкі ў рэспубліцы. Пытанні распрацоўкі і аналізу дэмаграфічных паказчыкаў насельніцтва рэспублікі ў этнічным разрэзе больш мэтазгодна даручыць буйному сектару дэмаграфіі і працоўных рэсурсаў Інстытута эканомікі АН БССР. Інстытут філасофіі і права АН БССР у адным са сваіх падраздзяленняў мог бы заняцца яшчэ зусім не даследаванай галіной этнічнай псіхалогіі.

Без аналізу гэтых праблем немагчыма вырашыць такія няпростыя задачы, як прагназіраванне і рэгуляванне моўнай сітуацыі ці павелічэнне дынамікі колькасці беларускага народа. Вырашаць гэтыя задачы трэба без прамаруджвання. Вырашаць рознымі шляхамі — і за кошт лепшай забяспечанасці шматдзетных сем'яў, і за кошт адраджэння цікавасці да сям'і і да яе адвечных каштоўнасцей. І, нарэшце, заахвочваючы ў людзях пачуццё патрыятызму і сацыяльнай адказнасці, без якіх беларуская нацыя будзе расці не так хутка, як таго хацелася б.

**ТАБЛІЦА 3**

**Колькасць і размяшчэнне беларускага народа на тэрыторыі СССР (тыс. чал.)**

| | 1959 | 1970 | 1979 |
|---|---|---|---|
| БССР | 6532 | 7290 | 7568 |
| РСФСР | 844 | 964 | 1052 |
| УССР | 291 | 386 | 406 |
| Казахская ССР | 107 | 198 | 181 |
| Латвійская ССР | 62 | 95 | 112 |
| Літоўская ССР | 20 | 45 | 58 |
| Эстонская ССР | 11 | 19 | 23 |
| Іншыя | 42 | 55 | 63 |
| Усяго | 7913 | 9052 | 9463 |
| Доля беларусаў у насельніцтве СССР | 3,8% | 3,7% | 3,6% |

6 сакавіка ў Дзяржаўным тэатры оперы і балета БССР адбудзецца навукова-практычная канферэнцыя. Тэма яе—«Праблемы рэстаўрацыі помнікаў музычнай і тэатральнай культуры мінулага і ўключэнне іх у сучаснае мастацкае жыццё».

У рамках канферэнцыі (праводзіцца яна па ініцыятыве СТД БССР) запланаваны даклад прафесара Г. Барышава, выступленне Дзяржаўнага камернага хору БССР, які выканае беларускія канты і культавыя песнапенні (паведамленне зробіць мастацкі кіраўнік хору І. Мацюхоў). У выкананні салістаў, хору і аркестра ДАВТа прагучыць опера Р. Вардоцнага «Апалон-заканадаўца», пра якую ўжо двойчы пісаў «ЛіМ» (гл. нумары за 16.XII.88 г. і за 24.II.89 г.) — паведамленні зробяць А. Мальдзіс і Н. Іўчанка. Ансамбль старадаўняй музыкі «Кантабіле» сыграе п'есы з «Полацкага сшытка», а таксама яшчэ невядомую нам музыку М. Радзівіла. Паведамленне пра тое, як былі знойдзены ноты гэтага кампазітара, рыхтуе В. Дадзёмава. Яе допіс мы і прапануем увазе чытачоў.

# Паланезы Мацея Радзівіла

## З музычнага архіва

Нясвіж другой паловы XVIII стагоддзя. Вядома, што тут, у сталіцы неабсяжных радзівілаўскіх латыфундый, існаваў адзін з буйнейшых на Беларусі музычных цэнтраў, які складаўся з оперна-балетнага тэатра, сімфанічнага, духавога і народнага аркестраў і *музычна-тэатральнай школы*. Тут, у Нясвіжы, працавалі славутыя еўрапейскія музыканты — нямецкі дырыжор і кампазітар І. Д. Голянд, італьянскі скрыпач Д. Канстанціні, кампазітар і спявак Д. Альберціні, чэшскі піяніст і кампазітар Я. Дусік, а таксама мясцовыя выканаўцы з прыгонных, чый талент і прафесійнае майстэрства дазвалялі ім займаць адказныя пасады салістаў і капельмайстраў. Тут жа, у Нясвіжы, жылі і працавалі музыканты-аматары: княгіня Уршуля Радзівіл, аўтарка не толькі драматычных, але і музычных твораў, і віленскі кашталян Мацей Радзівіл —выдатны музыкант, якога толькі фармальна мы залічваем да аматараў, а не да прафесіяналаў.

Для тых, хто цікавіцца гісторыяй музыкі Беларусі, імя Мацея Радзівіла вядомае перш за ўсё як імя аўтара лібрэта «Агаткі» — оперы з музыкай І. Д. Голянда, створанай і пастаўленай у Нясвіжы ў 1784 г. І мала хто ведае, што з-пад пяра Мацея выйшлі і арыгінальныя, уласна музычныя — оперныя, аркестравыя, фартэпіянныя — творы. Аўтографы некаторых з іх захаваліся да нашага часу ў адной з бібліятэк Дрэздэна. Чаму Дрэздэна? А таму, што творы гэтыя — Дывертысмент і Шэсць паланезаў для камернага аркестра, Серэнада для струннага квартэта, Саната для скрыпкі і фартэпіяна і Паланезы для фартэпіяна — былі прысвечаныя і падараваныя саксонскаму курфюрсту Антонію і прынцэсе Анне, з якімі кампазітар падтрымліваў сяброўскія адносіны. (Ноты гэтыя, знойдзеныя і апублікаваныя польскімі даследчыкамі, давялося прывезці ў Мінск, і некаторымі творамі зацікавіліся музыканты ансамбля «Кантабіле»).

Звесткі пра М. Радзівіла ёсць у кнігах А. Мальдзіса «Таямніцы старажытных сховішчаў», «На скрыжаванні славянскіх традыцый», «Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры XVIII стагоддзя». Прадстаўнік так званай шыдлавецкай лініі Радзівілаў, уладар невялікіх земляў на Навагрудчыне, быў ён чалавек неардынарны. Прыхільнік асветніцкіх ідэй, вызваляў ад прыгонніцтва ўласных сялян, за свой кошт узбройваў атрады касцюшкаўскіх паўстанцаў, зведаў няміласць дзяржаўнай улады. І творчае, і асабістае жыццё кампазітара было цесна звязана з Нясвіжам, пра што гавораць розныя факты ягонай біяграфіі: і стварэнне тут славутай «Агаткі», і пастаноўка ў Нясвіжы ў адзін год з ёю другой оперы, да якой М. Радзівіл напісаў і тэкст, і музыку, і стварэнне ім для нясвіжскай сцэны ў 1786 г. оперы «Войт альбанскага сялення» (тут ён быў не толькі лібрэтыстам і кампазітарам, але і выканаўцам адной з роляў).

Магчыма, Мацей жыў у Нясвіжы і ў 90-я гады, калі нейкі час выконваў абавязкі апекуна малалетняга Дамініка Радзівіла, які застаўся пасля смерці Караля—«Пане Каханку» нашчадкам маёнткаў. Ва ўсякім разе ад імя Мацея ў чэрвені 1791 г. у Нясвіжы быў абвешчаны распродаж музычных інструментаў і тэатральных дэкарацый, пра што паведамляў дадатак да «Газеты Варшаўскай». І яшчэ адна акалічнасць звязвае імя М. Радзівіла з Нясвіжам — менавіта тут ён пахаваны.

Знаёмішся з узорамі творчасці кампазітара — і пераконваешся, што ён атрымаў выдатную музычную адукацыю, быў дасведчаны ў асновах кампазітарскай тэхнікі. На думку польскіх даследчыкаў, фарміраванне ягонай творчай манеры адбывалася пад непасрэдным уплывам нясвіжскага мастацкага асяроддзя, дзе гучала музыка Я. Стаміца і Й. Гайдна, Н. Йомелі і Г. Пуньяні. Творы М. Радзівіла вызначаюцца даволі высокім прафесійным майстэрствам, тонкасцю густу і стылістычнай завершанасцю. Усе яны разлічаны на невялікі склад выканаўцаў: відаць, рыхтуючы свае вытанчаныя «музычныя падарункі», аўтар меркаваў, што яны прагучаць у вузкім коле, а мо і ў выкананні прыдворных аматараў музыкі.

Шэсць паланезаў для камернага аркестра, створаныя ў 1788 г., адносяцца да ліку самых ранейшых аркестравых узораў гэтага жанру, на той час вельмі папулярнага ва ўсёй Еўропе. Грацыёзныя, празрыстыя, яны напісаныя, на думку польскага музыказнаўцы К. Хлавічкі, у стылі ракако і, у адрозненне ад барочных паланезаў Г. Тэлемана, Г. Гендэля і І.-С. Баха, заснаваныя не на поліфанічным, а гамафонна-гарманічным выкладанні матэрыялу. Усе шэсць паланезаў напісаныя ў складанай трохчасткавай форме. Разлічаны яны на сціплы інструментальны склад: 2 скрыпкі, 1—2 флейты або флейта-пікала, 2 валторны, фагот і віяланчэль, а ў некаторых паланезах выкарыстоўваюцца яшчэ па 2 кларнеты. Выключэнне — першы твор пад назвай «Паляванне», дзе ёсць, апрача пералічаных ужо інструментаў, альт, паляўнічы рог і барабан, якія выкарыстоўваюцца ў ілюстрацыйных мэтах. Гэты паланез, дарэчы, увогуле вылучаецца сярод іншых, і не толькі сваёй інструментоўкай, але — арыгінальнасцю вобразнага зместу, абумоўленага праграмнай задумай.

Сама па сабе тэма палявання была не новая для музычнага мастацтва: яна, прынамсі, цікавіла Ф. Куперэна, Ж. Дакэна, Й. Гайдна. Аднак у творы М. Радзівіла гэтая тэма ўпершыню ўвасобілася ў жанры паланеза. Можна ўявіць сабе складанасць *задачы кампазітара-аматара*, якому трэба было, не парушаючы жанравых канонаў паланеза, намаляваць жывы і яркі музычны абразок. І гэта ўдалося: М. Радзівіл стварае выразную сцэну палявання: ад галопу гарэзлівай лані, цкавання яе сабакамі да малюнка барацьбы з мядзведзем, *што* заканчваецца аглушальным выбухам, агоніяй паваленага звера і трыумфам паляўнічых. Асаблівае праўдападабенства надаюць сігналы валторн і паляўнічага рога, якія то скліваюць на паляванне, то абвяшчаюць, што ў лесе знаходзіцца мядзведзь і г. д. Аднак пры ўсёй сваёй ілюстрацыйнасці, музыка палявання настолькі арганічна ўпісваецца ў паланезнае «клішэ» з яго характэрнай трохдольнасцю, што ні на хвіліну не забудзешся: гучыць хоць і не зусім звычайны, але — танец паланез. Думаецца, што ў гэтым творы М. Радзівіл быў у нейкім сэнсе папярэднікам Міхала Клеафаса Агінскага, Восіпа Казлоўскага як аўтараў праграмных паланезаў.

У адрозненне ад аркестравых, Паланез для фартэпіяна До мажор (1788 г.)— узор камернай трактоўкі жанру. Хутчэй за ўсё гэты твор М. Радзівіла быў задуманы як адзін з нумароў цыкла з трох паланезаў і меўся выконвацца ў шэрагу двух другіх (пакуль не апублікаваных). Што датычыць Серэнады і Санаты, дык у іх М. Радзівіл паказаў сябе як майстар, здольны да нестандартнага мыслення ў галіне музычнай формы.

Як вядома, жанры «лёгкай музыкі» XVIII стагоддзя — серэнада, дывертысмент, накцюрн, касацыя — набылі шырокае распаўсюджанне ў Еўропе. І М. Радзівіл мог бы выкарыстаць даволі шырокае кола ўзораў для перайманне: ад гайднаўскіх і моцартаўскіх твораў, добра вядомых у Рэчы Паспалітай, да серэнад Г. Пуньяні, прысланых у 1783 г. у Нясвіж Каралю Радзівілу яго былым капельмайстрам Даніэлем Корнерам. Аднак кампазітар стварае сваю Серэнаду не ў форме шматчасткавага цыкла а Ia сюіта, агульнапрынятай тады, а ў форме варыяцый.

Саната (у выданні — санаціна) для скрыпкі і фартэпіяна Соль мажор (1797 г.) — гэта пяцічасткавы цыкл. Думаю, да яе больш пасавала *б* вызначэнне «Накцюрн» ці «Касацыя» — настолькі музыка бестурботна-наіўная па сваім вобразным ладзе, падобная да тых п'ес дывертысментнага тыпу, што фарміравалі «гукавое асяроддзе» свайго часу.

І, нарэшце, Дывертысмент для 2-х скрыпак, альта, 2-х флейт, 2-х валторн, фагота, віяланчэлі і кантрабаса. У гэтым трохчасткавым творы, напісаным у адзін год з Санатай, кампазітар паўстае сталым майстрам, чый густ, талент і прафесійныя навыкі відаць і ў багацці меладызму (трохі падобнага да кантыленных і скерцозных тэм венцаў, бравурных і палётных мелодый мангеймцаў), і ў арганічнай прастаце гармоній, і ў прадуманай інструментоўцы, заснаванай на выдатным веданні выразных магчымасцей кожнага інструмента. Невыпадкова ў нашыя дні менавіта Дывертысмент зрабіўся найбольш папулярным творам М. Радзівіла. (Пласцінка з яго запісам, зробленым Літоўскім камерным аркестрам, хутка разышлася).

Усе названыя опусы, пры несумненнай арыгінальнасці кожнага з іх, пазначаны агульнасцю эмацыянальна-вобразнага напаўнення і стылістычным адзінствам. Прынамсі, танцавальнасцю, уласцівай, на думку І. Стравінскага, усёй музыцы XVIII стагоддзя.

Думаецца, інструментальная творчасць М. Радзівіла (дакладней, даступная для даследавання яе частка) — адзін з узораў своеасаблівага пераўтварэння тых стылістычных прынцыпаў заходнееўрапейскага музычнага мастацтва, актыўнае і творчае засваенне якіх адбывалася ў другой палове XVIII ст. у розных рэгіёнах усходнееўрапейскага культурнага арэала, у тым ліку і на Беларусі.

**Вольга ДАДЗІЁМАВА.**

---

**«ПЕРАБУДОВА І МЫ: УРОКІ, ТРЫВОГІ, СПАДЗЯВАННІ», «ВЫБАРЫ І НАШ ВЫБАР», «ЭКАЛОГІЯ: ПРАБЛЕМЫ, СІТУАЦЫІ, КАНФЛІКТЫ», «МАРТЫРАЛОГ БЕЛАРУСІ: ФАКТЫ І ІМЁНЫ»—пад гэтымі і іншымі, традыцыйнымі і новымі рубрыкамі**

## у бліжэйшых нумарах «ЛіМ» друкуе:

— **«сшыткі» з публіцыстычнай кнігі Н. Гілевіча «Між былым і наступным»;**

— **палемічны артыкул філосафа В. Акулава «Навошта змяшчаць акцэнты?»;**

— **нарысы М. Вайцяшонак і В. Якавенкі;**

— **нататкі Б. Сачанкі «Гараць ці не гараць рукапісы?», артыкул А. Лойкі «Эпічнае поле гісторыі»;**

— **«Хроніку адной рэабілітацыі» (з сямейнага архіва народнага мастака БССР А. Анікейчыка);**

— **вершы С. Грахоўскага, Г. Каржанеўскай, У. Арлова, А. Глобуса, А. Мінкіна, апавяданні Л. Дранько - Майсюка і М. Сердзюкова;**

— **старонкі з драматычнай паэмы Лесі Украінкі «Апантаная» і вершы сучасных карэльскіх паэтаў у перакладах Н. Загорскай і Я. Лапаткі;**

— **гутарку з дырыжорам Г. Праватаравым, рэцэнзію на кінафільм «Наш бронецягнік», развагі пра новую праграму Дзяржаўнага ансамбля танца БССР, нататкі з рэспубліканскіх выставак графікі і скульптуры;**

— **агляды і падборкі «З пошты «ЛіМа», а таксама іншыя матэрыялы.**

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

АТ 07435 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Індэкс 63856 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела пісьмаў і грамадскай думкі — 33-19-65, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 33-24-62, аддзела народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 33-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.